№ 35 (920) 23 верасня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

## Правальныя пяць гадоў




Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2010—2015 не выкананая. **Старонка 3.**

# Куды ляцім?

Расійская авіябаза ў Беларусі зробіць сілавое ўмяшанне Масквы магчымым у любы момант.



Уладзімір Пуцін распарадзіўся падпісаць пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю аб стварэнні на тэрыторыі Беларусі расійскай авіяцыйнай базы.

Цяпер міністэрства абароны Расіі мае праводзіць перамовы з Беларуссю. Пасля падпісання пагадненне мусіць прайсці ратыфікацыю абодвума бакамі.

«З'яўленне новай расійскай базы на тэрыторыі Беларусі небяспечнае дадатковай напружанасцю ў нашым рэгіёне. Гэта таксама перашкодзіць імкненню Беларусі нармалізаваць адносіны з Еўрасаюзам і НАТА», — адрэагаваў міністр абароны Літвы Юозас Олекас.

Рэакцыі беларускай дзяржавы дагэтуль няма, уладныя СМІ не ўздымаюць гэтае крайне непапулярнае ў грамадстве пытанне.

«Гэта не проста нейкая фармальная авіябаза — гэта Рубікон, перайшоўшы які, назад вярнуцца будзе складана, і каштаваць гэта будзе дорага. Мы бачым, чым абярнулася расійская база ў Крыме для Украіны, і тым самым можа абярнуцца такая база для Беларусі», — кажа Аляксей Янукевіч.

Расія завяла размовы пра авіябазу ў Беларусі ў 2013 годзе. Мінск тады пагадзіўся. Але пасля здарыўся 2014 год, калі, абапіраючыся на базу ў Севастопалі, Расія захапіла Крым.

У якасці месца размяшчэння спачатку называлі Баранавічы. Пасля Расія спынілася на Бабруйску.

**Сяргей Гезгала**

## Пагражалі, білі электрашокерам, зламалі сківіцу



Хлопцы са «справы графіцістаў» расказалі падрабязнасці свайго затрымання. **Старонка 6.**

## У Лукашэнкі няма ўкраінскіх каранёў

Гісторык-архівіст Зміцер Дрозд знайшоў дакументы, якія абвяргаюць пашыраную версію паходжання сям'і кіраўніка дзяржавы. **Старонка 14.**

## Кандыдаты паказалі сваё жыллё

Караткевіч жыве ў трохпакаёўцы з мамай, мужам і сынам, Гайдукевіч — у катэджы. **Старонка 5.**

## Міліцыянт валок сляпога жабрака па сходах за нагу

Інцыдэнт ускалыхнуў спачатку людзей у мінскім метро, а пасля і інтэрнэт. **Старонка 7.**

## Надзея Кучар: новая зорка



Беларуская оперная спявачка трыумфальна дэбютавала ў Вялікім тэатры Жэневы. **Старонка 12.**

# Статкевіч агучыў пяць выключна рэзкіх пытанняў Лукашэнку

Экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч арганізуе ў Мінску чарговую сустрэчу выбарцаў. Ён накіраваў Аляксандру Лукашэнку запрашэнне ўзяць удзел у ёй у выглядзе пяці рэзка сфармуляваных пытанняў, якія апублікаваў у інтэрнэце.

У пытанні 1 ён абвінавачвае Аляксандра Лукашэнку ў незаконным утрыманні ўлады.

Пытанне 2 датычыць выкрадання і забойства ў 1999 шэрагу дзяржаўных дзеячоў і бізнэсоўцаў, у тым ліку былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі і старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара.

Статкевіч сцвярджае, што гэтыя злачынствы ажыццявілі вайскоўцы брыгады спецназа МУС. Згодна з інфармацыяй Статкевіча, яны былі ўпэўненыя, што выконваюць законнае судовае рашэнне, бо ім быў прад'яўлены «прысуд вярхоўнага сакрэтнага трыбунала», змацаваны пячаткаю прэзідэнта.

Як вядома, у зняволенні Статкевіч перасякаўся ў адных камерах з некаторымі былымі спецназаўцамі, асуджанымі за іншыя злачынствы.




Пытанне 3 датычыць эканомікі. «Адно толькі ўвядзенне сусветных цэн на расійскія газ і нафту здольнае абрынуць арганізаваную вамі эканоміку за месяц», — піша Статкевіч.

Ён пытаецца адносна лёсу незалежнасці краіны ва ўмовах, калі пад ёй такі хісткі эканамічны фундамент.

У пытанні 4 пералічваюцца прэтэнзіі да сацыяльнай палітыкі ўладаў. Статкевіч крытыкуе бяспраўе людзей, а таксама рост спажывання алкаголю. «Вы разумееце, што вы з вашай хваравітай прагай улады — вялікае няшчасце для нашага народа?» — з салдацкай простасцю пытаецца Статкевіч.

Пытанне 5 кранае пытанні нацыянальнага гонару беларусаў.

«За 20 гадоў сваёй улады вы зрабілі ўсё, каб наша нацыя страціла сваю старадаўнюю і цудоўную мову, каб беларусы ператварыліся ў «рускіх са знакам якасці», як вы любіце казаць. Вы нават забаранілі наш 700-гадовы герб і сцяг яго колераў», — кажа Статкевіч.

Ён ставіць пытанне да некарэктнасці рэзка: «Вы так ненавідзіце ўсё беларускае і нас, беларусаў, бо вы — не беларус? Вы русіфікавалі беларусаў, каб яны менш супраціўляліся здачы незалежнасці нашай краіны Расіі?»

«Прапаную вам адказаць на мае пытанні. Адсутнасць адказаў ці рэпрэсіі супраць выбаршчыкаў, якія збяруцца 23 верасня а 18.00 на плошчы Свабоды, каб выслухаць іх, будзе раўназначным вашым станоўчым адказам на кожнае з маіх пытанняў», — кажа Статкевіч.

Ніхто з кандыдатаў у прэзідэнты не выступае з такой рэзкай крытыкай Аляксандра Лукашэнкі, як тое робіць падпалкоўнік Статкевіч. Грамадства адвыкла ад такой ступені крытыкі найвышэйшага чыноўніка дзяржавы.

Статкевіч правёў у зняволенні з 2010 па 2015 гады пасля таго як разам з іншымі кандыдатамі ў прэзідэнты ўзначаліў маніфестацыю жыхароў Мінска з патрабаваннем змены палітычнай сістэмы ў краіне. Дэманстрацыя прайшла ў дзень прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і стала найбольшым вулічным пратэстам у краіне за апошнія 15 гадоў.

**Сяргей Гезгала**

**Штраф за пікет — 7,2 мільёна рублёў**

Суд Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваў Міколу Статкевіча на 7,2 мільёна рублёў за «парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства або пікетавання». Гэта максімальна магчымы штраф па гэтым артыкуле.

Пікет "За сумленныя і свабодныя выбары" з удзелам былога палітвязня Мікалая Статкевіча прайшоў 10 верасня каля ГУМа.

Статкевіч сёння на судзе не прысутнічаў, бо даведаўся пра яго толькі напярэдадні і не атрымаў позву.

# ...і звазіў жонку на тыдзень у Грэцыю

«Я паабяцаў жонцы звазіць яе на адпачынак, як толькі сустрэў яе, у дзень вызвалення. Марыне было няпроста, пакуль я сядзеў пяць гадоў, яна нацярпелася. Дый мне пасля пяці гадоў турмы вандроўка пайшла на карысць. Мы тыдзень былі на поўначы Грэцыі, ля Салонікаў. Адсыпаліся і загаралі. Адпачылі добра — за гэтым, уласна, і ехалі. Але і там давялося працаваць — ахвяраваў адзін дзень на складанне пытанняў да Лукашэнкі», — расказаў Мікола Статкевіч.

Палітыка ўразіла гара Алімп і манастыр Метэоры, пабудаваны на высачэзных гарах.

«500 даляраў на дваіх пайшло на квіткі «Белавіі». А ў астатнім выдаткоўвалі дзесьці па 20 еўра штодзень», — расказаў Статкевіч.

Палітык кпіць з навязлівай увагі лукашэнкаўскіх СМІ да факта іх з Марынай тыднёвага адпачынку. Нярэдкія паездкі самога Лукашэнкі ў Сочы ці ў горы, часта з вялікай світай, там наадварот замоўчваюцца.

«Я мяркую, што чалавек раз на 5 гадоў можа дазволіць сабе адпачыць у Грэцыі. Няма з чаго тут рабіць навіну», — падагульніў Статкевіч.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Сцісла

**Яшчэ адна смерць на фізкультуры**

Следчы камітэт праводзіць праверку з нагоды смерці 10-гадовай пяцікласніцы адной са школ Партызанскага раёна сталіцы. 22 верасня дзяўчынка прысутнічала на ўроку фізкультуры, але паводле медыцынскіх паказанняў не выконвала практыкаванні. Раптам яна адчула недамаганне, і яе даставілі ў медпункт школы. Выратаваць жыццё дзіцяці не ўдалося.

**Беларус краў паліва ў Беластоку**

24-гадовы беларус запраўляў сваё «Рэно» на АЗС і з'язджаў, не заплаціўшы. На яго машыне былі скрадзеныя польскія нумары. Цягам тыдня беларус гэтак жа запраўляўся і з'язджаў без аплаты з пяці заправак розных АЗС, агулам скраўшы паліва на 260 еўра. Рэч у тым, што ў Польшчы спачатку запраўляешся, а плаціш па выніку. Не так, як у нас, дзе спачатку ўносіш грошы, а пасля заліваеш паліва.

**Саўчанка: Я салдат, а не забойца**

У Данецку (Растоўская вобласць Расіі) пачаўся суд над палоннай украінскай лётчыцай Надзеяй Саўчанкай.

На першым паседжанні яна цалкам адмовілася прызнаваць сваю віну. «Я ніколі ў жыцці не страляла па людзях без зброі. Я — салдат, а не забойца», — заявіла Надзея Саўчанка.

Пракуратура абвінавачвае Саўчанку ў датычнасці да гібелі двух расейскіх журналістаў у Данбасе летам мінулага года. Яны знаходзіліся на пазіцыях баевікоў.

Украінская лётчыца сцвярджае, што яе выкралі з Украіны і сілай вывезлі на тэрыторыю Расіі. «У маім выкраданні былі замяшаныя следчыя органы Расіі», — удакладніла яна. Надзея Саўчанка лічыць крымінальную справу супраць яе сфальшаванай і палітычна матываванай.

**УШ**

## Самае чытанае на nn.by за 16—22 верасня

1 Апублікавана відэа, як міліцыянт у Мінску валачэ жабрака па сходах за нагу, сцэна выклікала выбух гневу людзей у метро

2 У Стоўбцах немаладая пара занялася сэксам проста на цэнтральнай вуліцы горада

3 Шок ёсць, а тэрапія не пачалася. Відэа выступу Таццяны Караткевіч на «Беларусь-1»

4 Барысаўскую снайперку з «ДНР» арыштавалі ў Беларусі і пасадзілі на 12 гадоў?

5 Актрыса Купалаўскага тэатра: Пішыце, усё адно атрымаю трынды, заробак у мяне — тры мільёны

6 Для фільмавання ўдзельнікаў апазіцыйных акцый выкарыстоўваюцца акуляры са схаванай камерай

7 Следчы камітэт пра затрыманне жабрака: Ён хуліган-рэцыдывіст, і не глуханямы

8 Узорны доктар, які падтрымлівае Лукашэнку. Гісторыя жыцця Алега Румо

9 15-гадовая датчанка разам з хлопцам-джыхадыстам зарэзала ўласную маці, наглядзеўшыся ролікаў ІД

10 Калінкіна: Калі Караткевіч не агент, яна здымецца з выбараў

# Правальных пяць гадоў

**Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2011—2015 не выкананая.**

За паўмесяца да прэзідэнцкіх выбараў — 2010 некалькі тысяч дэлегатаў сабраліся ў Палацы рэспублікі на так званы Усебеларускі народны сход. На традыцыйным хурале ўхвалілі вынікі папярэдняй пяцігодкі, а таксама прынялі праграму развіцця краіны на 2011—2015 гады. Гэта дакумент у 2011 годзе быў прыняты ўказам Аляксандра Лукашэнкі.

Сёлета пра рэспубліканскі сход узору тых, што адбыліся ў 1996, 2001, 2006 і 2010, пакуль не чуваць. Аднак хто тады падсумуе, ці ўдалося выканаць план?

«Наша Ніва» вычленіла з дакумента асноўныя абяцанні, якія былі дадзеныя народу.

### 1. Рост дабрабыту

**План:** рост ад $500.

**Рэальнасць:** падзенне да $400.

Паводле прынятай праграмы, яе галоўнай мэтай з'яўляецца «рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоваў жыцця насельніцтва». Самы просты індыкатар, які тлумачыць, наколькі багата жывуць беларусы, — сярэдняя зарплата.

У лістападзе 2010 года, перад выбарамі, заробак складаў $472.

Пяць гадоў развіцця пайшлі ўхаластую. Сярэдні заробак у ліпені 2015 года складаў $459. Аднак пасля жнівеньскай-вераснёвай плаўнай дэвальвацыі лічба апусцілася да $400. Гэта адзін з найгоршых вынікаў у Еўропе. Горшыя паказчыкі толькі ва Украіне і Малдове. Нават албанцы багацейшыя за беларусаў!

**Што ўдалося**

**Паляпшэнне дэмаграфічнай сітуацыі**

Упершыню з 1994 года колькасць насельніцтва Беларусі стала павялічвацца, хай і перадусім за кошт мігрантаў.

**Павелічэнне экспарту сельскагаспадарчай прадукцыі**

Мяркуецца, што сёлета ўдасца дасягнуць $7 мільярдаў, як і было запланавана ў праграме пяцігодкі. Вырашальнаму скачку дапамагло эмбарга на пастаўку ў Расію еўрапейскіх тавараў.

**Якасная сувязь і інтэрнэт**

Беларусь перайшла да лічбавай перадачы тэлевізійнага сігналу, інтэрнэт і мабільная сувязь павялічваюць хуткасці, але застаюцца даступнымі па цане.

### 2. Патэнцыял чалавечага развіцця

**План:** увайсці ў 50 найлепшых краін па ўзроўні развіцця чалавечага патэнцыялу.

**Рэальнасць:** 53-е месца ў рэйтынгу.

Чыноўнікі спадзяваліся ўзняцца яшчэ ў адным сусветным рэйтынгу. У ім па складаных формулах вылічваецца ўзровень дабрабыту. Улічваецца сярэдняя працягласць жыцця, працягласць адукацыі, а таксама валавы нацыянальны даход у пераліку на чалавека.

Беларусь узнялася з 61-га на 53-е месца. Гэта вышэй за Расію і Украіну, але ніжэй за краіны-суседкі, якія ўвайшлі ў склад Еўрасаюза. Неаспрэчныя лідары рэйтынгу — нарвежцы.

### 3. Рост ВУП

**План:** рост на 62—68% у параўнанні з 2010.

**Рэальнасць:** рост на 7%.

Гэты паказчык урад лічыў, бадай, самым галоўным. Але ўсё адразу пайшло не так, як трэба...

За 2010—2014 ВУП вырас на 10%, а сёлета нават стаў адмоўным (прагноз дае каля мінус 2,8% за год). Пад ціскам фінансістаў прамыславікі вымушаныя адступіць. За прыгожымі лічбамі ВУП больш не гоняцца, імкнучыся спачатку даць рады інфляцыі.

### 4. ВУП на чалавека па парытэце пакупніцкай здольнасці

**План:** рост да $28600 — $29800.

**Рэальнасць:** $18160.

Калі б лукашэнкаўская эканоміка сапраўды запрацавала паводле гэтага плана, Беларусь дагнала б братоў-славян Чэхіі. Але казкі рэдка спраўджваюцца.

Беларусь засталася ў сёмым дзясятку краін свету. Суседзі ў рэйтынгу — Ліван і Маўрыкій.

### 5. Сальда замежнага гандлю

**План:** плюс $500 мільёнаў у 2015.

**Рэальнасць:** мінус $4,4 мільярда ў 2014; мінус 1,3 мільярда за студзень-ліпень 2015.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

За пяцігодку сальда замежнага гандлю склала каля мінус $20 мільярдаў. Страты кампенсаваліся замежнымі крэдытамі. Аднак часам не хапае і іх, і таму нацыянальныя рэзервы таксама ўпалі.

### 6. Узровень золатавалютных рэзерваў

**План:** больш за 3 месяцы імпарту

**Рэальнасць:** 1,8 месяца імпарту

Штомесяц Беларусь закупляе імпарту на $2,5 мільярда. Падушка бяспекі мусіць быць утрая большай. Аднак пакуль што Нацбанк адклаў толькі $4,6 мільярда — гэтага хопіць менш чым на два месяцы.

### 7. Свабода прадпрымальніцтва і рэйтынг вядзення бізнэсу

**План:** увайсці ў 30 найлепшых краін для вядзення бізнэсу і прыцягвання замежных інвестыцый.

**Рэальнасць:** 57-е месца ў рэйтынгу.

Высілкі ўладаў не далі плёну. Беларусь застаецца ў шостым дзясятку краін у рэйтынгу *Doing Business*. Часткова чыноўнікам перашкодзілі змены ў методыцы падліку. Але факт застаецца фактам — сусветныя карпарацыі так і не прынеслі свае грошы ў краіну.

За ўвесь мінулы год прамыя замежныя інвестыцыі (без уліку запазычанасці за працу і паслугі) не дацягнулі нават да $2 мільярдаў.

### 8. Будаўніцтва жылля

**План:** 9,5—10 мільёнаў квадратных метраў.

**Рэальнасць:** 4 мільёны квадратных метраў (прагноз 2015).

Шматлікія крызісы прымусілі дзяржаву перагледзець планы будаўніцтва, скарачаючы іх год за годам. Ільготнае крэдытаванне ў сферы нерухомасці фактычна згорнута. Выключэнне застаецца толькі для шматдзетных сем'яў і сілавікоў.

### 9. Чаканая працягласць жыцця

**План:** 72—73 гады.

**Рэальнасць:** 73 гады.

Гэта адзін з нямногіх паказчыкаў, які аказаўся выкананым. Пры гэтым гендарны перакос захоўваецца: мужчыны цяпер дажываюць да 68 гадоў, а жанчыны — амаль да 79 гадоў. Людзі сталі жыць даўжэй, бо лепшымі сталі харчаванне і медыцына.

**Хто вінаваты?**

У сёлетняй перадвыбарнай праграме Лукашэнка прызнае, што папярэдні план не быў выкананы, і называюцца вінаватыя ў гэтым. Паводле фармулёвак, прычына выключна ў знешніх фактарах:

«Пяць гадоў таму мы ставілі перад сабой вялікія задачы ў эканоміцы. Скажу проста і шчыра: не ўсё з таго, што задумвалася, удалося выканаць. Мы ў поўнай меры адчулі жорсткую ўзаемазалежнасць сучаснай глабальнай эканомікі. Не мы правакавалі сусветны эканамічны крызіс. Не мы распальвалі ваенныя канфлікты. Не мы раскручвалі спіраль узаемных санкцый. Але ўсё гэта ўдарыла па нас, ударыла балюча і нечакана».

### 10. Стабільнасць беларускага рубля

Лічба пяцігодкі: 5,8 раза — у столькі абясцэніўся беларускі рубель да даляра з дня папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў.

Інфляцыйная мадэль развіцця не дазваляе эканоміцы выйсці з дэвальвацыйнай спіралі. Не было ніводнага года, калі цэны выраслі менш чым на 15%. А дэвальвацыя 2011 года ўвогуле сталарэкорднай у Еўропе.

**Ягор Марціновіч**

## «Беларусь — мой лёс, служэнне ёй — сэнс майго жыцця»

Апублікавана перадвыбарная праграма **Аляксандра Лукашэнкі.**

Аляксандр Лукашэнка адмовіўся ад дэбатаў і тэлевыступаў у якасці кандыдата ў прэзідэнты. Ягоная праграма выкладзеная толькі ў тэкставым выглядзе і называецца «За будучыню незалежнай Беларусі».

Складальнікі праграмы пішуць, што беларусы маюць перад сабой усяго два шляхі: «Адзін шлях наперад — да захавання стабільнасці і парадку, свабоды і незалежнасці. Гэта шлях адзінства і згоды, развіцця і прагрэсу. Гэта шлях міру і плёну.

Іншы шлях назад — да смуты і хаосу «дзевяностых», бандыцкага капіталізму і дзяльбы ўласнасці, да паслаблення дзяржавы і страты незалежнасці. Гэта шлях рэвалюцый, крыві і вайны».

Праграма Лукашэнкі заснавана на абароне наступных каштоўнасцяў: свабода і незалежнасць, мір і парадак, салідарнасць і справядлівасць, праца і дабрабыт.

Праца і дабрабыт уключаюць у сябе наступныя пункты: барацьба з інфляцыяй і ростам цэн, новыя падыходы да мадэрнізацыі эканомікі, эфектыўнае дзяржаўнае кіраванне, прыцягненне інвестыцый і падтрымка бізнэсу, адкрытасць глабальнаму свету.

«Мірнае і шчаслівае жыццё нашых людзей стане галоўным вынікам выканання ўсяго задуманага. Беларусь умацуе сваю незалежнасць і зробіць імклівы прарыў у будучыню, — рэзюмуецца ў праграме. — Гісторыя не раз даказвала: адзінства і мэтанакіраванасць усяго народа здольныя рабіць цуды».

«Беларусь — мой лёс. Служэнне ёй — сэнс майго жыцця», — напрыканцы звяртаецца да выбарцаў Лукашэнка.

## Дзяржаўныя СМІ і штаб Лукашэнкі выкарыстоўваюць аднолькавую сімволіку

Агітатары кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі і шэраг дзяржаўных СМІ ў сваіх інфармацыйных матэрыялах аб выбарах выкарыстоўваюць адзін і той жа графічны сімвал — птушку ў форме літары «V», размаляваную ў колеры дзяржаўнага сцяга.

Такі ж графічны сімвал выкарыстоўвае тэлеканал АНТ падчас канцэртаў «Мы разам», якія праходзяць з пачатку верасня ў абласных цэнтрах Беларусі.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына не плануе прадпрымаць нейкія захады ў гэтай сітуацыі. «Вядома, калі паступіць скарга ад каго-небудзь з кандыдатаў, мы гэта пытанне разгледзім. Калі ўсіх гэта задавальняе, што разглядаць?»

**Паводле Tut.by**



# «Шок ёсць, а тэрапія не пачалася»

60 хвілін аднойчы на пяць гадоў — столькі часу выступу на тэлебачанні атрымліваюць кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі. Дый і тыя альтэрнатыўныя меркаванні зліваюцца з галасамі відавочных спарынг-партнёраў Аляксандра Лукашэнкі Кандыдатка Таццяна Караткевіч выступала з бел-чырвона-белым сцяжком з выявай «Пагоні». Яна прамаўляла без паперкі, а скончыла выступ фразай «Жыве Беларусь!».

Караткевіч заклікала прагаласаваць за змену «старой, некампетэнтнай, безадказнай каманды». Па яе словах, за ўсе гады ўрады Лукашэнкі «не прыдумалі нічога новага, акрамя як жыць за кошт Расіі, але на справе атрымліваецца, што Расія нажываецца на нас».

Караткевіч лічыць, што «ёсць чатыры задачы, якія мы павінны неадкладна выканаць: спыніць рост цэнаў, выцягнуць прамысловасць з крызісу, даць свабоду дзелавой ініцыятыве і прыцягнуць інвестыцыі».

Свой першы выступ кандыдатка прамовіла па-руску, а другі раз сабралася звяртацца да народа па-беларуску.

**СГ**




**Рэакцыя на выступ**

### «Сёння нарадзіўся публічны апазіцыйны палітык»

«Гэта быў паслядоўна апазіцыйны выступ. Была рэзкая крытыка існага рэжыму. Акцэнтавалася ўвага на тым, што краіна ў крызісе, і вінаватая ў гэтым улада, якая бяздзейнічае і не хоча чуць народ. Але была не толькі крытыка, але і прапановы па выхадзе з крызісу. Але ў гэтай частцы не ўсё было пераканаўча. На мой погляд, не хапала кантрасту. Маўляў, улады робяць вось так, а мы будзем рабіць па-іншаму — і будзе вынік.

У цэлым можна сказаць, што першы выступ Таццяны Караткевіч быў удалы. Сёння нарадзіўся публічны апазіцыйны палітык», — напісаў палітолаг Валер Карбалевіч.

### «Вучыцца, вучыцца і вучыцца»

Заснавальнік партала tut.by Юрый Зісер адзначыў, што Караткевіч выступала «на тры галавы лепш за ўсіх дэмакратычных кандыдатаў мінулых гадоў», але заўважыў некаторыя мінусы.

Няма харызмы. У выступе адчуваецца няўпэўненасць, завучанасць і аднатыпнасць жэстаў.

Тэкст прамовы добры для улётак і праграмы, але не пасуе для вуснага выступлення. Не хапае прастаты, вобразнасці і лёгкасці.

Пры чытанні кандыдат увесь час запінаўся і памыляўся, няправільна чытаў словы з экрана.

«Таму вучыцца, вучыцца і вучыцца», — падсумаваў Зісер.

**Апытанне на nn.by**

**Ці спадабаўся Вам першы тэлевыступ Таццяны Караткевіч?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 809 | 40% |
| Не | 161 | 8% |
| Сярэдне | 140 | 7% |
| Не глядзеў | 585 | 29% |
| Выступ спадабаўся, але што з таго? | 325 | 16% |

Прагаласавала 2020 чалавек

# Калінкіна: Калі Караткевіч не агент, яна здымецца з выбараў

**— Каманда Таццяны Караткевіч спрабуе мабілізаваць пратэстны электарат. Спрабуе зрабіць яе адзіным дэмакратычным кандыдатам на гэтых выбарах. Атрымаецца?**

— Вынікі Караткевіч улады будуць паказваць як узровень падтрымкі апазіцыйных настрояў. Я баюся, што працэнты ўзроўню яе падтрымкі (тое, што будзе адлюстравана ў афіцыйных пратаколах) будуць супастаўныя з вынікамі Улаховіча. Магчыма, у Таццяны будзе крышачку больш, як у больш сімпатычнага чалавека, як у жанчыны, як у найбольш прыгожай асобы ў беларускай палітыцы.



Каманда Караткевіч, заклікаючы прыхільнікаў пераменаў прыйсці на выбары, не можа даць адказ на галоўнае пытанне: а навошта?

Вы збіраецеся перамагчы? Не. Вы ўпэўненыя, што будуць лічыць галасы? Не. Вы лічыце, што Аляксандр Лукашэнка адумаецца, паглядзіць на лічбы Караткевіч і паедзе да Папы Рымскага каяцца, што ён няправільна сябе паводзіў увесь гэты час, быў на цёмным баку? Не.

Калі ў краіне няма выбараў, то не пачуюць ні Караткевіч, ні Статкевіча, ні Лябедзьку, ні Калінкіну... Ці пачуюць толькі тое, на што будзе дадзена каманда пачуць. Таму, будучы на месцы Таццяны Караткевіч, я б знялася з выбараў.

Можа быць, правяла б агітацыйную кампанію на тэлебачанні, у дзяржаўных друкаваных СМІ, але потым абавязкова б знялася. У імя ідэі, што апазіцыя адзіная, што яна дзеля агульнай мэты можа прыцішыць свае амбіцыі ў гадзіну ікс, што яна можа думаць пра вялікае галоўнае, а не пра дробнае і другаснае.

**— У дэмакратычнай супольнасці Таццяну Караткевіч заклікаюць зняцца з гэтых выбараў. Аргументы зразумелыя. На вашу думку, апазіцыя здолее гэта зрабіць, дайсці да розуму яе каманды?**

— Я вельмі спадзяюся на лепшае. Не хочацца верыць у тое, што сённяшні праект «Гавары праўду!» і, адпаведна, праект «Кандыдат Таццяна Караткевіч» — гэта цалкам распрацоўка КДБ. Але, на мой погляд, відавочна: калі гэта сапраўды так, калі з Таццяны зрабілі такую падтанцоўку Лукашэнку, то, вядома, яна не здымецца. Калі ж гэтыя абвінавачванні толькі чорны піяр нядобразычліўцаў, то Таццяна павінна зняцца, бо на перамогу яна не можа разлічваць, пра што, дарэчы, сама і заяўляе.

А вось дыскрэдытаваць апазіцыю яе ўдзелам да канца атрымаецца на 100%. Але, паўтаруся, хочацца верыць, што Таццяна ўсё-такі зробіць прыгожы і высакародны ўчынак. Скажа: я правяла кампанію, але, паважаныя выбаршчыкі, я не магу вас падманваць, гэта не выбары, таму дзякуй, што вы знаходзіцеся на светлым баку — я застаюся разам з вамі.

**Udf.by**

# Гайдукевіч: «Жыве Беларусь!» — гэта мой лозунг

Лідар ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч выступаў па тэлебачанні першым. Ягоныя вочы ўвесь час бегалі, то ў камеру ён глядзеў, то раптам направа. Аказалася, у студыі стаялі дзве камеры, аднак пры гэтым прамоўцу амаль увесь час паказвалі «ў лоб».

Выглядала, што Гайдукевіч моцна хваляўся, аднак ён абвяргае: «Вы што, якія хваляванні? Я ж магу дзве гадзіны, пяць гадзін гаварыць! Вы толькі паперку мне пакладзіце на стол, каб я ведаў, пра што».

Гайдукевіч скончыў прамову словамі «Жыве Беларусь!» — і гэта быў, бадай, адзіны запамінальны момант выступу.

«А пра лозунг «Жыве Беларусь» я так скажу — гэта мой лозунг! Я яго прамаўляў і ў 2001 годзе, і ў 2006. Нельга казаць, што гэта словы толькі радыкальнай апазіцыі. Гэтыя словы павінны нас яднаць», — упэўнены Гайдукевіч.

Агулам у часе свайго тэлевыступу, аднак, Гайдукевіч ні слова не пакрытыкаваў Аляксандра Лукашэнку, але раз у раз нападаў на апазіцыю і настойліва выступаў супраць любых акцый пратэсту.

Ён заявіў, што апазіцыя можа «прынесці бяду ў нашы сем'і». «Я ніколі не паклічу на Плошчу рабіць рэвалюцыю. Для мяне гэта недапушчальна», — заявіў Гайдукевіч.

Яркім момантам выступу кандыдата сталі і наступныя словы: «Скажу вам чэсна і шчыра — у краіне шмат добрага зроблена за гэтыя гады. Хачу сказаць вялікі дзякуй Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку...»

**Арцём Гарбацэвіч**

# Улаховіч пляжыў баптыстаў

Зварот па тэлебачанні Мікалая Улаховіча часам выглядаў як хаатычны набор думак, якія супярэчаць адна адной. Да таго ж кандыдат не рабіў паўзаў паміж фразамі.

Ён проста чытаў тэкст з тэлесуфлёра, прычым часам пачынаў спрачацца з напісаным ці ўдакладняць змест. «Скажу шчыра, асабіста я як грамадзянін-абывацель даўно ўжо не карыстаюся дыванамі», — раптоўна падзяліўся Улаховіч.

Без дай прычыны ён прыплятаў у свой зварот «спадара Трусава». Да старшыні Таварыства беларускай мовы атаман апеляваў пяць разоў.

«Я, напрыклад, дакладна ведаю, што іспанцы з усімі размаўляюць на сваёй роднай мове, і асабліва ў прысутнасці англічан, французаў і немцаў. І гэта выклікае павагу. І адрываць нашу беларускую культуру ад агромністай рускай — гэта злачынства. Мы гэтым абядняем сябе і сваю нацыю. Так што, спадар Трусаў, «агліцкая» культура ад нас далёка, а руская заўсёды побач з намі». Дык Улаховіч за нацыянальную культуру ці за асіміляцыю з мацнейшымі суседзямі? «Працаваць больш за 15 гадоў пасля дасягнення пенсійнага ўзросту няварта, — тлумачыў ён і праз некалькі хвілін супярэчыў сам сабе — Крытэрыем для звальнення пенсіянераў павінен быць не ўзрост».

Асабліва гледачам запомніўся яго абразлівы пасаж у бок баптыстаў: «Не бачу нічога дрэннага ў рэлігіі, калі толькі яна звязаная не з баптысцкай накіраванасцю, дзе прапаведуецца шкода здароўю чалавека».

«Пенсіянеры — аснова нашай радзімы, якія аддалі і здароўе, і энергію, і розум», — падсумаваў Улаховіч, сам, дарэчы, пенсіянер.

**Ягор Марціновіч**

**Епіскап Круцько: Чалавек хоча стаць прэзідэнтам, і такі невук**

«Мы ўжо праходзілі савецкую ўладу і паклёп. Таму мяне гэта не здзіўляе. Чалавек хоча стаць прэзідэнтам, і такі невук у гэтых пытаннях. Яму трэба было б сказаць наадварот, што баптысцкая рэлігія толькі здаровы лад жыцця, духоўны і фізічны, прапагандуе. І жывуць так баптысты», — пракаментаваў на радыё «Свабода» старшыня Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Беларусі Віктар Круцько.

# У Лукашэнкі — «мы», у Караткевіч — «будзе», а ў Гайдукевіча — «Гайдукевіч»

Якія словы **найчасцей выкарыстоўваюцца** ў праграмах кандыдатаў у прэзідэнты?

Паліттэхнолагі параілі штабу Сяргея Гайдукевіча пачынаць кожны абзац з прозвішча самога палітыка. У выніку «Гайдукевіч» сустракаецца... 37 разоў.

Далей па папулярнасці ідуць словы «краіна» (21 раз) і «Беларусь» (альбо беларус/беларускі) — 20 разоў.

У Таццяны Караткевіч пералічваюцца запланаваныя перамены, таму слова «будзе» згадваецца 32 разы. На другім месцы «Беларусь» — 28 разоў. Далей з вялікім адрывам ідуць «забяспечваць» (16 разоў), «развіццё» (15 разоў) і «павінен» (14 разоў).

У Аляксандра Лукашэнкі пераважаюць словы «мы/нас/нам» (53 разы). Толькі пасля гэтага ідзе «Беларусь » (27 разоў).

У Мікалая Улаховіча самая частая канструкцыя — «Беларусь» (28 разоў).

**ЯМ**

# Караткевіч паказала сваё жыллё

**Кандыдатка ў прэзідэнты жыве ў звычайнай трохпакаёўцы з мамай, мужам і сынам.**

Тацяна Караткевіч сустракае журналістаў у звычайным панэльным доме на вуліцы Асаналіева ў Мінску.

Стары ліфт гучна гудзіць, у кабіне хтосьці клапатліва павесіў люстэрка. Звычайны тамбур на дзве кватэры, у тамбуры — абутак, ровары.

Мы прыйшлі ў госці ў дзевяць раніцы, мама і муж Тацяны ўжо на працы, сын у школе. Тацяна частуе нас кавай на ўтульнай кухні. Разглядаем дэталі. Вось магнізікі на халадзільніку, антонаўка ў кошыку, вось чайны грыб у трохлітровым слоіку.

— Кватэра трохпакаёвая: адзін пакой — мамы і два нашыя. У насміравыя адносіны, таму выдатна ўсё, — адказвае Тацяна на пытанне, што лунае ў паветры, ці не цяжка жыць з мамай.

**— Кватэра не падаецца маленькай. Але не магу не спытаць: стаіце на чарзе маючых патрэбу?**

— Я даволі позна зразумела, што мы маем права на чаргу. Сталі, калі Елісею было тры гады. Чарга рухаецца вельмі павольна, заканадаўства пастаянна мяняецца. Па новых стандартах нам ужо метраў хапае. Мама вельмі даўно працуе на прадпрыемстве, і пару гадоў таму ёй прапанавалі пабудавацца ад прадпрыемства. Будаўніцтва абышлося б у 50 тысяч еўра. У нас заробкі сярэднія, як у настаўнікаў ці медсясцёр, такіх зберажэнняў, натуральна, не было. Залазіць у даўгі не рызыкнулі. Льготныя крэдыты для звычайных чаргавікоў выдаваць да таго часу перасталі, а з камерцыйным крэдытам кватэра абышлася б у 90 тысяч еўра. Мы ацанілі свае сілы і вырашылі, што не пацягнем. Зрэшты, ніхто не шкадуе з гэтай нагоды. Муж хоча жыць не ў горадзе, мама — таксама. Мы вырашылі збіраць энергію, каб калі-небудзь пачаць будаўніцтва свайго дома.

**— У многіх мінчукоў такая мара.**

— І мы ў ёй аднадумшыя. Ёсць кватэра, у якой жывём, але хочацца нешта за горадам. Нават Елісей, калі малодшым быў, казаў: «Не хачу жыць у каменных джунглях». Зараз стаў старэйшым, 12 гадоў, да горада ўжо ставіцца спакайней.

Ідзём на экскурсію па кватэры. Здаецца, тут не так даўно быў рамонт.

— Паколькі пераязджаць нам няма куды, рамонт робіцца часткамі і па меры неабходнасці, — тлумачыць Тацяна. — Трэба на кухні — робім на кухні. Трэба ў пакоі — робім. Усё паступова. Толькі да пакоя, дзе я жыву, пакуль рамонт не дайшоў — ён прахадны, і трэба вырашыць, куды ўсё перанесці на час. А колькі зойме працэс, прадказаць складана. У ваннай, думалі, за два тыдні ўправімся. Што там рабіць: плітачку хуценька абаб'ем, новую пакладзем, ванну купім... А сышло на яе паўтара месяца.

Зрабілі Елісею ў пакоі рамонт, калі ён у школу ішоў. Пакой з балконам, у ім не хапае святла, таму выкарысталі ўсе рэсурсы, каб дадаць сонца — шпалеры, шторы з жоўтымі палосамі. Нягледзячы на недахоп жылплошчы, мы, як многія бацькі, хацелі, каб у дзіцяці быў свой кут.

Таму і гасцінай у нас няма. Калі прыходзіць шмат гасцей, у нашым пакоі раскладваецца стол-кніга, накрываецца абрусам...

Тут муж і дзіця сядзяць за камп'ютарам.

Сценка, бачыце, савецкая захавалася. Вельмі ёмістая.

А гэта мой куток, дзе можна размясціцца з ноўтбукам. Вельмі люблю, каб было светла. А тут два балконы — пакоі не могуць быць светлымі. Таму я патрабую, каб усюды было дадатковае асвятленне: настольныя лямпы тут, таршэр, бра. Хоць мы стараемся эканоміць — усюды энергазберагальныя лямпы.

**— А хто штангу цягае?**

— Муж, Віталь.

**— Муж працуе на дзяржпрадпрыемстве?**

— Не, у прыватнай кампаніі. Будуюць модульныя дамы, дачныя домікі. Ён тры курсы адвучыўся ў машынабудаўнічым ў Магілёве, потым яго адлічылі за палітычную актыўнасць. Доўга працаваў у машынабудаванні, але ў прыватных фірмах рэгулярна былі праблемы з аплатай. На заробак кіраўніцтву заўсёды хапала, а астатнім перыядычна распавядалі, што крызіс, што заказчыкі не плацяць своечасова. Потым сышоў у будаўніцтва. Яму хочацца працаваць на сябе, і праца падабаецца.

**— У дэкларацыі аб даходах у вас з мужам з нерухомасці — толькі «працоўныя конікі» — няновыя машыны.**

— Учора была на бацькоўскім сходзе, размаўляла з людзьмі. Нікога наша дэкларацыя не здзіўляе. У нашай сям'і сярэднія даходы. Многія маюць равеснікі ў такім жа становішчы. У нашых бацькоў была магчымасць абзавесціся жыллём — яго давалі, існавалі нейкія субсідыі. У нашага пакалення было мала варыянтаў палепшыць жыллёвыя ўмовы. Многія для гэтага разменьвалі бацькоўскія кватэры. Мы не сталі. Зноў жа, таму што вельмі каштоўна, калі ў цябе добрыя адносіны са сваякамі. Калі можаце дапамагчы адзін аднаму ў любой сітуацыі.



АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ



АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ

**— Мама падстрахуе на кухні, мужа пакорміць?**

— Так, і я буду гатаваць, калі мама кліча гасцей. Так, мужу бывае трохі цяжка. Але — удасканальвае на працы навыкі, якія спатрэбяцца пры будаўніцтве хаты.

Пакуль абмяркоўваем дом, фатограф здымае скульптуру.

— Гэта беларуская скульптара праца. А карціну мне падарылі, і выцінанка Юры Вінаградава, а гэтая рука каля майго століка — карціна маёй студэнткі. Мы нядаўна сустрэліся, і яна мне падарыла сваю працу.

На балконе знайшлі шафку, якую Тацяна сама перарабіла з антрэсоляў, выкарыстоўваючы дэкупаж. І невялікую калекцыю прадметаў вясковага побыту сярэдзіны мінулага стагоддзя.

— Галота на выдумку хітрая, — жартуе Тацяна, ківаючы на шафку. — Усё гэта збіраю, рогі-капыты, усё, што ў бабулінай хаце знайшлі — прасавальная дошка, прас, начоўкі, — калі-небудзь перавандруе ў будучы дом. Дом я хачу драўляны. Шмат езджу па Беларусі, і мне здаецца вельмі цікавай драўляная архітэктура, у Рэчыцы, Бабруйску, ва Ушачах бачылі шмат дзіўных дамоў. А балкон вагонкай аздабляў муж, даўно ўжо...

Вяртаемся на кухню — дапіваць каву.

**— А чайны грыб хто гадуе?**

— Усе. Пастаянна ідуць эксперыменты — цяпер вось чайны грыб, раней быў грыб, здаецца, рысавы. Цяпер у мяне на гэта часу няма. Днём — сустрэчы з людзьмі, увечары прыходзіш — трэба хатнім справам час аддаць, падумаць, што заўтра надзець, пачытаць кучу матэрыялаў. Але грыб, як бачыце, жывы — гэта таксама важны плюс вялікай сям'і.

PS: У кватэры яшчэ жыве белы блакітнавокі кот з рудым хвастом. Ён выйшаў на кухню нечакана, пацікавіўся змесцівам міскі, але ўбачыў фатографа і хутка сышоў. Увогуле пазіраваць адмовіўся.

**Наталля Шарай, Tut.by**

# Дзе Гайдукевіч узяў грошы на катэдж?

Яшчэ адзін кандыдат у прэзідэнты Сяргей Гайдукевіч жыве ў Сёмкаве пад Мінскам. Там сям'я палітыка мае невялікі катэдж.

Гайдукевіч прызнаўся, што набыў участак з домам у 1993 годзе за $22 тысячы.

На заўвагу, што ў тыя часы гэта была велізарная сума, кандыдат у інтэрв'ю «Еўрарадыё» патлумачыў, што «адзін кіёск прыносіў за дзень тысячы тры прыбытку, не тое што цяпер, таму не такая гэта і вялікая сума».

Сяргей Навумчык у пачатку 1990-х быў сакратаром парламенцкай камісіі па СМІ і правах чалавека. Ягоны заробак прыраўніваўся да міністэрскага і складаў $40. Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч у той час атрымліваў каля $80 у эквіваленце.

А вось Гайдукевіч выконваў абавязкі начальніка ўпраўлення па сацыяльнай абароне сілавікоў пры Савеце міністраў. Па статусе гэта не вышэй за намесніка міністра, таму і зарплата не была высокай.

«Ніякі шапік у 1993 годзе пры сярэднім заробку ў $20 не «прыносіў за дзень тысячы 3 прыбытку. Да нас пастаянна звярталіся прадпрымальнікі са скаргамі на бюракратычны ціск, таму я магу ўявіць іх даход — добра калі ён быў $500 за месяц», — узгадвае Навумчык.

«Увогуле, ці разумее Гайдукевіч, пра што сведчаць ягоны словы пра кіёскі? Дзяржчыноўнікам было забаронена займацца камерцыйнай дзейнасцю», — падсумоўвае ён.

**ЯМ**



ДЗМІТРЫЙ БРУШКО

# Пагражалі, білі электрашокерам,

Хлопцы са «**справы графіцістаў**» расказалі падрабязнасці свайго затрымання.

На дадзены момант у Беларусі няма палітвязняў. Перад выбарамі на волю выйшлі Мікола Статкевіч і асуджаныя анархісты.

Тым часам пяцёра маладзёнаў чакаюць, чым скончыцца расследаванне іхняй «справы графіцістаў». Абвінавачанне не знятае, аднак хлопцаў выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Разгляд іх справы адбудзецца ўжо пасля выбараў.

Нагадаем, пяцёра хлопцаў: Яраслаў Ульяненкаў, Максім Пякарскі, Вячаслаў Касінераў, Вадзім Жаромскі і грамадзянін Расіі Павел — былі жорстка затрыманыя 11 жніўня. У віну ім паставілі стварэнне беларускамоўных графіці «Беларусь мае быць беларускай» і «Рэвалюцыя свядомасці», а таксама запэцкванне фарбай сацыяльнага білборда з выявамі супрацоўнікаў міліцыі. Праваабаронцы прызналі хлопцаў палітычнымі зняволенымі. Дзеянні графіцістаў кваліфікавалі як злоснае хуліганства, ім пагражае да 6 гадоў зняволення.

Адзін з затрыманых, Яраслаў Ульяненкаў, ужо расказваў «Нашай Ніве», як яго затрымлівалі людзі ў масках з пісталетамі, выбіўшы дзверы кватэры (падрабязнасці ў №31 ад 19 жніўня 2015). Цяпер свае гісторыі расказваюць іншыя фігуранты гучнай справы.

**«У мяне рот напоўніўся крывёю, я яе глытаў, каб не запэцкаць падлогу»**

«Гэты было 11 жніўня. Прыблізна а палове на чацвёртую хтосьці пазваніў у дзверы. Звычайна апрануты мужчына сказаў, што ён нібыта сантэхнік, а ў мяне праблемы з туалетам. Хвіліны дзве мы з ім спрачаліся: я тлумачыў, што ўсё ў мяне ў парадку, ён настойваў, што не, — пачынае распавед Вячаслаў Касінераў. — Ні пра якую міліцыю гутарка не ішла, але я пачаў здагадвацца, што адбываецца. Я зразумеў, што калі не адчыню, то дзверы проста выламаюць. Апроч мяне, дома былі жонка і малая дачка, якой трохі больш за год. Я адамкнуў, у кватэру імгненна ўварваліся некалькі чалавек, мяне паставілі на калені, заламалі рукі. Адзелі кайданкі і ў твар на некалькі секундаў тыцнулі абвінавачваннем. Усё, што я паспеў прачытаць, гэта быў адзін радок пра графіці «Беларусь мае быць беларускай». Я не супраціўляўся зусім, толькі казаў, каб мае «госці» паводзілі сябе адэкватна і не крычалі, бо ў хаце жонка і дзіця. Спытаў, ці ёсць паперы на вобшук, адказалі, што ёсць, але ж ніхто мне іх не паказаў. Ніхто не называў ані імёнаў, ані званняў. Усе, апроч аднаго, былі апранутыя ў цывільнае. Потым з іх размоваў я зразумеў, што гэта былі аператыўныя супрацоўнікі».

Вячаслава вывелі пад рукі па лесвіцы, закінулі ў мікрааўтобус, паставілі на калені. Хлопец кажа, што заўважыў, як некаторыя міліцыянты здымалі бронекамізэлькі, што былі ў іх пад цывільнай вопраткай. Цікава, да чаго яны так рыхтаваліся?

Жонка з дачкой засталіся ў хаце. Там некалькі супрацоўнікаў праводзілі вобшук.

«Пры затрыманні мяне не збівалі. Але калі мы ад'ехалі, хтосьці з іх спытаў мае прозвішча, імя, імя па бацьку. Я быў у стрэсе, і ці то надта ціха адказаў, ці то не так хутка, як трэба было, але адразу атрымаў моцны ўдар у скіўіцу. Я займаюся тайскім боксам, і магу ўпэўнена сказаць — мне «прапісалі» добры хук. У мяне адразу рот напоўніўся крывёю, я некалькі разоў яе глытаў, каб не запэцкаць падлогу, — кажа Касінераў. — Яшчэ такі момант — мне надта шчыльна зашчанулі рукі кайданкамі. Я папрасіў, каб паслабілі, высветлілася, што ключ ад кайданкоў яны пакінулі недзе ў мяне дома».

Вячаслаў сцвярджае, што ва ўпраўленні па арганізаванай злачыннасці (ГУБАЗ) пачаўся ціск на яго: маўляў, мы ўсё ведаем, давай каліся, «грузіся», пішы ўсё, як было. На яго ціснулі: «Зараз ты сядзеш, жонка з дзіцём застануцца адныя, што, не любіш іх?» Казалі: «Вамі мы займаемся даўно, вы пагуда ў нас у распрацоўцы, мы ўсё пра вас ведаем». Прычым, адзначае Касінераў, міліцыянты ўзгадвалі моманты і дробязі, якія ён прыватна абмяркоўваў з жонкай па тэлефоне.

«Цікава, што калі мяне з ГУБАЗа перадавалі ў Следчы камітэт, я зайшоў у адзін з кабінетаў, а там на сценах, як ганаровыя граматы, віселі так званыя «ружы» — шалікі футбольных клубаў «Тарпеда» і «Дынама», не звычайныя, а фанацкія, з кельцкімі крыжамі. Іх было штук з дзесяць. Кабінет гэты належаў аднаму з тых, хто цікавіўся маімі анкетнымі дадзенымі. На жаль, імя і званне яго я не ведаю», — кажа Касінераў.



24-гадовы **Максім Пякарскі** займаецца вэб-дызайнам. Свой дзень народзінаў ён сустрэў на Валадарцы.



**Яраславу Ульяненкаву** 32 гады. Ён ІПэшнік, займаецца аптовым гандлем прадуктамі харчавання. Нядаўна ў яго нарадзілася дачка.

**По дарозе ў аддзяленне Вячаслаў атрымаў двайны пералом скіўіцы з адкрытай ранай у роце**




У ГУБАЗе хлопец пабачыўся з адвакатам, паказанняў яшчэ не даваў. Скіўіца вельмі балела, ён скардзіўся на гэта. Вячаслава павезлі ў скіўічна-тварнае аддзяленне. Там высветлілася, што ў яго двайны пералом скіўіцы з адкрытай ранай у роце. Паставілі шыну — гэта калі праз кожны зуб працягваюць дрот і сцягваюць скіўіцы. Прычым, кажа хлопец, кайданкі здымаць міліцыянты адмовіліся.

«Дактары паклалі мяне ў стацыянар. Абкалолі абязбольнікамі, плюс тая шына — размаўляць я фактычна не мог. Аператыўнікі яшчэ з паўгадзіны вырашалі, як мяне прычапіць кайданкамі да ложка. Я прасіў, каб кайданкі знялі зусім — адчуваў сябе вельмі дрэнна плюс палата на трэцім паверсе, куды я збягу? Але не, адмовіліся, — распавядае Касінераў. — На наступны дзень на ўсе працэдуры я хадзіў з аператыўнікамі. Нават прыбіральню яны правяралі перад тым, як мяне туды запусціць. А на другі дзень аператыўнікаў змянілі канвойныя і пачался пекла. Адзін быў у палаце, двое — перад дзвярыма. Канвойныя ўвогуле доўга не размаўлялі. Аднойчы яны вялі мяне на здымак і заблукалі ў калідорах, як толькі я спыніўся і кіўком хацеў паказаць, у які бок ісці, мяне адразу прыцісnулі да сцяны, пракрычаўшы літаральна ў адно слова: «Шагвсторонупрыжокнаместепопыткакбегствуогоньна поражение!!!» А калі я чысціў зубы, што трэба было рабіць пасля кожнага прыёму ежы, двое канвойных стаялі побач, адзін з дубінкай у руках — каля акна.

Затым я два дні проста ляжаў у ложку, прыкаваны кайданкамі, нават у прыбіральню хадзіў у кайданках. На працэдуры і ў сталовую ўжо не вадзілі, прыносілі ўсё ў палату. З суседзямі па палаце — а я быў у агульнай — размаўляць не давалі. Прычым за двое сутак тых канвойных каля 20 разоў прыязджалі правяраць».

Праз два дні канвой знялі. Вячаслаў застаўся ў шпіталі. Агулам ён ляжаў там каля 9 дзён. Праз пералом скіўіцы не мог нармальна есці — зубы былі сціснутыя. За тыдзень хлопец скінуў 7 кілаграмаў.

«Падчас сустрэч са следчымі прад'яўлялі мне і графіці, але я бачыў, што яны і самі ўсё дакладна ведаюць, хто і што рабіў. Я прызнаў сваю віну па запэцканым фарбай білбордзе. Штраф заплацілі і я, і Вадзім прыкладна па 3,5 мільёна, — кажа Касінераў. — Цяпер кожны тыдзень нас цягаюць на допыты. Яшчэ і нас усіх аблілі брудам, зрабілі злачынцамі, хіба не тэрарыстамі».

Хлопец гатовы доўга расказваць пра парушэнні падчас расследавання.

«Напрыклад, эксперытыза павінна праводзіцца пасля таго, як падазраваны будзе пра яе інфармаваны. Але ж нам паведамілі толькі 31 жніўня, калі Следчы камітэт ужо вывесіў навіны з вынікамі той экспертызы, — кажа Вячаслаў. — Прычым мы выступаем супраць нацызму і неанацызму, а эксперты прызналі, што матэрыялы, якія знайшлі ў нас, — экстрэмісцкія, утрымліваюць нацысцкую сімволіку. То бок перакрэсленая свастыка прапагандуе нацызм? Гэта ж абсурд!»

Падчасператрусу ў Касінерава забралі тэлефоны, два камп'ютары, увесь абутак і некаторую вопратку. «Мне зараз хадзіць няма ў чым», — скардзіцца ён.

Падчас самога вобшуку панятыя знаходзіліся ў адным пакоі, а аператыўнікі — па некалькі чалавек у кожным, кажа хлопец, спасылаючыся на словы маці і жонкі. Гэта парушэнне, але гэтак жа праходзілі ператрусы ў астатніх хлопцаў.

«Заяву на «собраўца», які мяне ўдарыў, я напісаў пазней. Твар яго я бачыў. Першы тыдзень яшчэ быў нейкі рух — мяне выклікалі ў Следчы камітэт і вельмі падрабязна распытвалі пра затрыманне: ці не маглі мяне ўдарыць дзвярыма, калі ўваходзілі, ці не падаў я, калі мяне выводзілі. Бралі ў мяне генетычны матэрыял, каб параўнаць з тым, што знайшлі ў мікрааўтобусе, я нават маляваў ім схему, дзе ў машыне быў я, а дзе той «собравец». Але апошнія два тыдні — цішыня», — кажа Вячаслаў.

**«Ну што, сукі, савецкую ўладу не любіце?»**

Расказаў пра сваё затрыманне і Максім Пякарскі.

«Я са сваёй дзяўчынай Настассяй і сябрам Вадзімам Жаромскім здымаем двухпакаёўку на трэцім паверсе пяціпавярховіка. 11 жніўня мы былі дома ўтраіх — Настасся паехала па справах, але ў Вадзіма гасцяваў знаёмы з Расіі. Дзень быў цёплы, мы адчынілі вокны, — кажа Максім. — Я пачуў нейкі шум за акном, і раптам у кватэру праз вокны заляцелі два чалавекі ў поўнай экіпіроўцы са зброяй. Яны пад сваю ж лаянку збілі нас з ног, паклалі на падлогу, прычым адзін з іх крычаў: «Ну што, сукі, савецкую ўладу не любіце?»,

# зламалі скіўцу


27-гадовы **Вячаслаў Касінераў**. Ён мае вышэйшую гістарычную адукацыю, раней працаваў у Музеі беларускай народнай архітэктуры і побыту, але сышоў — плацілі 2-3 мільёны, а ў Вячаслава жонка і гадавалая дачка. Сёння працуе на складзе.

а другі: «Восемдзесят восем!», што мяне здзівіла [у неанацысцкіх колах лічба 88 з'яўляецца закадаваным прывітаннем «Heil Hitler!» («Хайль Гітлер!»), бо літара «H» стаіць у лацінскім алфавіце восьмай — «НН»]. Адзін з іх адразу пабег да дзвярэй, адамкнуў іх, і ў кватэру забеглі некалькі чалавек таксама ў экіпіроўцы і некалькі ў цывільным. Агулам іх было каля 10 чалавек. Адразу панеслася лаянка, абяцанні, што нас закрыюць у турму і мы адтуль больш не выйдзем, КДБ намі будзе займацца і гэтак далей... Казалі, што мы нібыта жадаем, каб адбылося тое ж, што і ва Украіне, таму нас і бяруць».

Траіх хлопцаў развялі па розных памяшканнях. У кожным пакоі адначасова знаходзілася па некалькі супрацоўнікаў міліцыі, прычым вобшук фактычна пачаўся адразу, а панятых прывялі толькі хвілін праз дваццаць, сцвярджае Максім.

«Пакуль панятых не было, нас трымалі на падлозе, білі электрашокерам, білі нагамі. Мне казалі, што і маю дзяўчыну пасадзяць у турму, што яны ведаюць, дзе яна», — кажа ён.

Тое, што было трэба, міліцыянты адкладалі ў адну кучу: фарбы, ноўтбукі, вопратку. Прычым вобшук праводзілі без цырымоній, напрыклад, разбілі шкляную паліцу. Ані званняў, ані прозвішчаў ніхто не называў.

«Краем вуха я пачуў, што быў нейкі Манастырны і нейкі Луневіч», — узгадвае Пякарскі.

Луневіча ўзгадвае і Яраслаў Ульяненкаў, якога таксама затрымалі 11 верасня.

«Ігар Паўлавіч Луневіч — званне не памятаю — аказваў псіхалагічны ціск на мяне. Ён пагражаў тым, што дабярэцца да маёй цяжарнай жонкі, якая была ў Магілёве. Казаў: «Навошта табе тыя казлы, табе дзіцё гадаваць, кажы тое, што нам трэба, — і пра цябе праз месяц забудуць», — кажа Ульяненкаў.

Пякарскі працягвае: «Потым мне патэлефанавала мая дзяўчына, Настасся. Тэлефон узяў адзін з міліцыянтаў, сказаў ёй, што нібыта я на ровары збіў дзіця, і Настасся павінна пад'ехаць у ГУБАЗ: маўляў, можа, яна паспрыяе, каб бацькі таго дзіця забралі сваю заяву.

Яна паехала, і яе пратрымалі некалькі гадзін без адваката, распытвалі наконт хлопцаў і графіці, ціснулі на яе, пратакол ніхто нават і не складаў. Затым Настассю адвезлі ў Следчы камітэт як сведку».

Затым маёмасць забралі, хлопцаў павялі ў машыны. Дарэчы, пратакол аб канфіскацыі маёмасці, кажа Максім, ён ўбачыў толькі праз месяц.

Хлопцаў адвезлі ў ГУБАЗ. Па іх словах, увесь час на іх ціснулі, казалі, каб яны падпісвалі прызнанні, бо астатнія нібыта ўжо далі паказанні.

«У ГУБАЗе я і Настасся былі ў суседніх памяшканнях. Я чуў, як яна галасіла, плакала. Потым міліцыянты казалі, што Настассі стала дрэнна, што ёй выклікалі хуткую і ў бальніцу павезлі. Але яны хлусілі», — кажа Пякарскі.

Хлопцу з Расіі, Паўлу, загадалі, каб ён у той жа дзень з'ехаў з Беларусі, пасля чаго адпусцілі.

На наступны дзень Максіма адвезлі на Акрэсціна. Там ён правёў трое сутак. Затым — на Валадарку, адкуль яго выпусцілі толькі 31 жніўня. Дарэчы, свой 24-ы дзень народзінаў хлопец сустрэў за кратамі. Якраз у гэты дзень, 20 жніўня, яму прад'явілі абвінавачванне.

Максім прызнае, што маляваў тыя графіці. Але і ён, і астатнія хлопцы не згодныя з тым, што іх дзеянні раптам трапілі пад артыкул Крымінальнага кодэкса.

«Мы не прызнаем хуліганства. На той жа сцяне было шмат іншых графіці, але міліцыю зацікавіла толькі тое. Чаму? Чаму справу з білбордам перакваліфікавалі з «пашкоджання маёмасці» таксама ў «хуліганства»? Мы такім творчым метадам выказваем свае перакананні, пашкодзілі сцяну — добра, заплацім. Але прычым тут крымінал? Экстрэмізм?» — кажуць яны.

Шмат аб чым Максім не можа казаць — ён падпісаў паперу, што не можа разгалошваць матэрыялы справы. Але хлопцы ўпэўненыя, што маўчаць ім не трэба, і спрабуюць надаць розгалас справе.

«Усё, што не супадае з уладнымі перакананнямі, разглядаецца як экстрэмізм. Зараз пачынаюцца рэпрэсіі супраць тых, хто можа ўзяць удзел у пратэстных акцыях. Людзей запалохваюць

**«Навошта табе тыя казлы, табе дзіцё гадаваць, кажы тое, што нам трэба, — і пра цябе праз месяц забудуць»**

«Майданамі». І нас хочуць ці то запужаць, ці то пасадзіць «на ўсякі выпадак». І яны думалі, што зробяць гэта ціха, але ціха ў іх не атрымалася — наша гісторыя трапіла ў СМІ, з намі гаварылі нават журналісты з Германіі. І міліцыянты спалохаліся таго, што нарабілі, бо яны відавочна перавысілі свае паўнамоцтвы, — кажуць хлопцы. — Мы хочам, каб наша сітуацыя стала прыкладам іншым, каб людзі выкрывалі ўсе падобныя выпадкі, не маўчалі, не былі запалоханымі. У грамадстве павінна быць чалавечая салідарнасць».

**Улад Швядовіч, фоты Ірыны Арахоўскай**

# Міліцыянт валок сляпога жабрака па сходах за нагу

Інцыдэнт ускалыхнуў спачатку людзей у **мінскім метро**, а пасля і інтэрнэт.



У Мінску Дзмітрыя ведае, напэўна, больш людзей, чым якіх-небудзь малавядомых артыстаў з АНТ. Міласціну на станцыях метро ён просіць ужо даўно. Часта пасажыры па душах размаўлялі з Дзмітрыем і распытвалі аб грамадскім і асабістым. Таму многіх шакавала карціна, калі людзі ў форме паспрабавалі яго затрымаць. Сляпы бездапаможны чалавек у кайданках успрымаецца інакш, чым калі б у кайданкі закавалі звычайнага здаровага мужчыну.

Пасля сутычкі ў пераходзе заведзена крымінальная справа за супраціў міліцыі. Падазраваны — Дзмітрый А. Следчы камітэт высвятляе ўсе акалічнасці здарэння, а таксама «ступень абмежаванасці фізічных здольнасцяў» у мужчыны.

Можа быць, у пераходзе метро Дзмітрый толькі грае ролю інваліда і такім чынам зарабляе грошы?

Мужчыну неаднойчы дапамагалі ў паліклініцы №8 ва Уручы. Крыніцы ў медустанове пацвярдзілі Еўрарадыё, што Дзмітрый А. — інвалід першай групы па зроку.

Адпраўляемся ў шматпавярхоўку на вуліцы Шугаева, дзе мужчына жыве ў апошнія гады. На ўваходзе ў яго кватэру няма вочка. Званок зламаны. За старымі тандэтнымі дзвярыма брэша сабака. Падобна да таго, што клапаціцца пра жывёліну цяпер няма каму.

Стукаем у дзверы да суседзяў.

«Сацыяльным работнікам я ўжо адказала на ўсе пытанні. Ён сляпы, па-сапраўднаму сляпы. Апошнія 10 гадоў — дакладна! Ён не п'яніца. Я сама яго прыводзіла ад станцыі метро дадому. І так яго са станцыі метро да кватэры даводзілі вельмі многія людзі. Цесна ён ні з кім адносін не меў», —адказвае адна з суседак Дзмітрыя.

Незадоўга да візіту журналістаў па пад'ездзе гэтак жа прайшоўся міліцыянт.

«Некаторы час тут ён жыў з сястрой і пляменніцай. А потым жыў сам. Калісьці яму прапаноўвалі застацца ў інтэрнаце для сляпых, але ён адмовіўся, хацеў сам пра сябе клапаціцца. Ён спакойны, неагрэсіўны хлопец...» — пераконвае суседка.

Следчы камітэт у сваім паведамленні зрабіў акцэнт, што мужчына раней быў неаднаразова судзімы за хуліганства і маёмасныя злачынствы. Падчас бойкі, паводле звестак праваахоўнікаў, Дзмітрый укусіў аднаго з міліцыянтаў і нанёс удар левай рукой у скроневую вобласць галавы.

Каментатары ў інтэрнэце робяць акцэнт на звычайнай міласэрнасці і мэтазгоднасці. Ніякай патрэбы ў такім жорсткім затрыманні жабрака людзі не ўгледжваюць. Многія падазраюць, што ідзе перадвыбарчая зачыстка сталіцы ад «асацыяльных элементаў», каб замежныя назіральнікі не бачылі, што і ў Беларусі інваліды жабруюць.

**Сяргей Гезгала; інф. «Еўрарадыё»**

Працяг тэмы

# Давыдзька передумаў прабачацца

Працягваецца дыскусія вакол словаў старшыні БТ Генадзя Давыдзькі. Нагадаем, ён неаднаразова абразіў беларускіх фанатаў, якія бралі ўдзел у маршы салідарнасці напярэдадні матча нацыянальных каманд Беларусі і Украіны ў Львове 5 верасня.

Спачатку Давыдзька нібыта адступіўся. «Пра гэтых фанатаў, заўзятараў футбольных — мне непрыемна, што там непаразуменні ёсць. Нібыта пакрыўдзіліся на мяне, што я назваў іх нацыстамі... Ну, гэта я «згарача», бадай што і прабачэння трэба будзе папрасіць», — сказаў Давыдзька ў эфіры «Еўрарадыё».

Аднак у выніку ад сваіх словаў так і не адмовіўся, і апублікаваў у «Советской Белоруссіі» артыкул «Такі футбол нам не трэба».

«Усё гэта мне так нагадала адэскія падзеі, завадатарамі якіх з'яўляліся таксама футбольныя фанаты, магчыма, тыя ж самыя, якія ішлі разам з беларускімі заўзятарамі па Львове. Скажу наўпрост. Сярод тых беларускіх заўзятараў, хто прыехаў на матч, асноўную масу складалі людзі дарослыя, прыстойныя, сапраўдныя аматары футбола, якія прайшлі



доўгі шлях, каб падтрымаць у Львове нашу каманду і атрымаць асалоду ад гульні.

Натуральна, што ніхто з іх і не павінен прымаць на свой рахунак мае словы, але тых азлобленых маладзёнаў, якія публічна абражалі на львоўскіх вуліцах Уладзіміра Пуціна, Расію, а значыць, сваімі паводзінамі — і Беларусь, іх я назваць іншым словам не магу. Ды і якія яны, наогул кажучы, «заўзятары», што звязвае іх з футболам? Адно толькі — пад маскай «фанатаў» ім трэба збіцца ў натоўп, пакуражыцца, даць волю інстынктам. Тым больш незразумелым для іх «палітычным», калі яны робяць невядома што. Прасочваецца гэта, на жаль, і на беларускіх стадыёнах, цяпер вось вылілася ў такі непрыгожы экспартны варыянт».

# У Мінску адкрываецца першы начны клуб, дзе ўсё будзе па-беларуску

«Пляцоўка-хол» знаходзіцца на Кастрычніцкай плошчы.

Неўзабаве ў мінскім Палацы рэспублікі запрацуе начны клуб, фішкай якога стане ягоная беларускасць — персанал набіраюць толькі беларускамоўны, а ўнутранае аздабленне будзе ў сучасным нацыянальным стылі. Пакуль што ў памяшканні мала што гатова, але праца ідзе. Больш падрабязна пра новую задуму расказвае арт-дырэктарка «Пляцоўкі-хола» Алена Галушка. «Мы вырашылі стварыць месца, дзе будзе бавіць ночы беларуская моладзь, але пры гэтым адысці ад тэмы сялянскай хаты, «сахі і касы», — тлумачыць Алена. — Такога ў Беларусі яшчэ не было, і, мяркуючы па цікавасці людзей, мы рухаемся ў правільным кірунку. Камерцыйная цікавасць для нас нават не асноўнае, мы больш жывём ідэяй».

Паводле арт-дырэктаркі, установа высунула жорсткія крытэры па падборы персаналу: ахоўнікі, бармены і афіцыянты мусяць дасканала валодаць беларускай і англійскай мовай. А працаваць ім давядзецца ў нацыянальных строях.

«Мы нават ладзілі конкурс, бо адгукнулася досыць шмат моладзі. Ім давядзецца стаць тварам новай нацыянальна арыентаванай установы», — кажа Алена.

Асноўнай жа праблемай, паводле яе словаў, стала адсутнасць танцавальнай беларускай музыкі — дагэтуль яе ніхто не рабіў, бо не было попыту.

«Калі сталі думаць над тым, якую музыку круціць, то таксама спыніліся на беларускай. Але гэта ж начны клуб, разумееце? Там свая спецыфіка, свае рытмы. А якасных песень, якія б можна было сцягнуць з інтэрнэту і зрабіць рэмікс, няма. Таму цяпер мы шчыльна працуем з рознымі беларускімі музыкамі і просім іх напісаць для нас музыку, якую можна было б адаптаваць пад дыскатэчны фармат. Нашыя замовы ўспрымаюцца артыстамі вельмі пазітыўна, усе гатовыя супрацоўнічаць. Знайшліся нават ахвотныя перакладаць сусветныя хіты на беларускую мову», — падзялілася планамі арт-дырэктарка.

«Яшчэ адна асаблівасць, якая мусіць вылучаць наш клуб, — гэта ўнутранае аздабленне. Наша «Пляцоўка-хол» будзе цалкам тэматычнай. Цяперака дзве выдатныя дызайнеркі размалёўваюць сцены клуба арнаментамі, іншыя людзі катаюцца па Беларусі і шукаюць аўтэнтычныя прылады, якія будуць упрыгожваць інтэр'ер. Увогуле, мы хочам зрабіць штосьці файнае, прыкольнае, сучаснае. Каб людзі, якія прыйдуць да нас, фоткаліся на фоне нашых сценаў, каб месца стала культавым, каб з'явілася свая атмасфера. Кожны аб'ект у нашым клубе мусіць быць арт-аб'ектам», — натхнёна расказала Алена.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Арт-дырэктарка Алена Галушка паказвае здымак адной са страваў, якія будуць падаваць у клубе

У задуме гаспадароў яшчэ і стварэнне сувенірнай лаўкі, маўляў, раптам хтосьці з наведнікаў захоча пераапрануцца — трэба даць людзям магчымасць купіць вышыванку наўпрост у клубе.

«Яшчэ адзін істотны момант клубнай атмасферы — гэта кухня і напоі. У нашым меню на 80% будуць беларускія напоі і стравы. Гэта «першачок», дранікі ды іншае. Але цяпер мы далі барменам наказ прыдумаць і распрацаваць беларускія кактэйлі, накшталт «Махіта». Каб хлопцам было чым частаваць сваіх дзевак», — смяецца Алена. Мяркуецца, новы клуб запрацуе напрыканцы кастрычніка.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Беларус будуе самую вялікую ветразевую яхту свету

«Белая пярліна» каштуе $400 мільёнаў.

Брытанскія таблоіды апублікавалі фатаграфіі найбуйнейшай ветразевай яхты ў свеце, вядомай як «Белая пярліна». Яна была пабудавана па замове расійскага мільярдэра, ураджэнца Гомеля, Андрэя Мельнічэнкі.

Судна коштам каля $400 мільёнаў будуецца на верфі ў Германіі.

«Белая жамчужына» мае даўжыню 147 метраў і тры мачты вышынёй 91,5 метра. Лодка складаецца з васьмі паверхаў і прызначана для прыёму 20 гасцей і экіпажа з 54 чалавек.

Багацце 43-гадовага Андрэя Мельнічэнкі ацэньваецца ў $9,1 мільярда. Ён валодае Сібірскай вугальнай энергетычнай кампаніяй і кампаніяй «ЕўраХім» па вырабе мінеральных угнаенняў. Мельнічэнку называюць прэтэндэнтам на куплю Гомельскага хімічнага завода і «Гродна Азота».



**ЯМ**

# Сірыйскі хлопчык сустрэўся з Крышціяну Раналду

Гэта тое самае дзіця, якое павалілася ад падножкі венгерскай журналісткі.

Хлопчык з Сірыі Саід Абдул выйшаў разам з найлепшым футбалістам свету Крышціяну Раналду перад чарговым матчам мадрыдскага «Рэала».

7-гадовы Саід — сын Асамы Абдула Махсена, бежанца з Сірыі. Нядаўна пра іх загаварылі ўсе сусветныя СМІ: на сербска-венгерскай мяжы ім паставіла падножку аператарка *N1TV* Петра Ласла, зваліўшы іх на зямлю.

Гісторыя прыцягнула ўвагу прэзідэнта футбольнай акадэміі *CENAFE* ў Мадрыдзе. Ён знайшоў Асаму Абдулу Махсена і сына — у кафэ, дзе тыя глядзелі матч Лігі чэмпіёнаў. Затым — пералёт у Парыж і цягнік да Мадрыда.

Футбольная акадэмія прапанавала Махсену працу. Аказалася, што сірыец у мінулым трэніраваў футбольныя клубы ў сваёй краіне.



Яго жонка і дзве дачкі засталіся ў Турцыі. Плануецца, што неўзабаве і яны прыбудуць у Іспанію.

Акадэмія будзе плаціць за жыллё Махсену і яго сям'і, пакуль тыя не будуць у стане забяспечыць сябе самі. Таксама сірыйцам дапамогуць са школай для дзяцей і курсам іспанскай мовы.

**АГ**

# Ялфімаў у чвэрцьфінале расійскай «Галоўнай сцэны»

Журы ў захапленні ад спевака.

Беларускі выканаўца Пятро Ялфімаў працягвае ўдзел у расійскім музычным праекце «Галоўная сцэна».

Падчас спаборніцтваў ён выканаў папулярны хіт канца 70-х гадоў, песню «Зорачка мая ясная», з рэпертуару гурту «Цветы». Ён праспяваў досыць блізка да арыгіналу, але ў фінале дадаў феерычна высокі вакаліз, не дапусціўшы ніводнай фальшывай ноты.

Журы было ў захапленні — ніводнага голасу «супраць».

Пятра папрасілі выканаць іншую кампазіцыю, каб паглядзець іншыя магчымасці. Вакаліст перакanaўча паказаў зусім іншую манеру і іншы, рокавы, тэмбр, праспяваўшы шлягер Вячаслава Дабрыніна «Качается вагон» — прычым сам аўтар з задавальненнем падпяваў другім голасам.

**Show-biz.by**



# Школьнік злавіў тыгровага сома

Радзіма экзатычнай рыбы — Амазонка.

Школьнік з Наваполацка злавіў у Дзвіне тыгровага сома. Здабыча была ў даўжыню амаль паўметра, важыла — 1,3 кг.

«На закідзе дзясятым адчуў добрую моцную паклёўку, адразу ж пайшоў супрацў. Я думаў, гэта шчупак, але, калі выцягнуў гэтую рыбу, у мяне была маса эмоцый, шок, я не ведаў, што гэтая за рыба. Пашча як у асятровых, афарбоўка як у змеегалова, вусы як у вусача. Версій шмат, але ні на тое, ні на тое не падобная», — распавёў рыбак Макар Макараў.

Адказ знайшлі ў інтэрнэце. Найхутчэй, рыбу хтосьці выпусціў у раку з акварыума.

Тыгровы сом — драпежнік, жыве ў рэках Цэнтральнай Амерыкі, у цёплай вадзе. Малькі растуць вельмі хутка, паглынаючы любую даступную здабычу.

**Паводле АНТ**

# Што будзе, калі прымайстраваць курыцы пратэз хваста?

Уручаныя штогадовыя антынавуковыя Шнобелеўскія прэміі.

Да ўручэння Нобелеўскіх прэмій засталося паўмесяца, а значыцца, надышоў час уручэння Шнобелеўскіх (Ігнобелеўскіх) прэмій — узнагародаў за самыя экстравагантныя ідэі і абсурдныя навуковыя даследаванні. «За дасягненні, якія прымушаюць спачатку засмяяцца, а пасля — задумацца», — адзначаюць арганізатары.

Уручэнне адбылося ў Гарвардскім універсітэце ўжо 25-ы раз. Хто стаў пераможцам на гэты раз?

Шнобелеўская прэмія па хіміі ўручаная за адкрыццё спосабу ператвараць звараныя курыныя яйкі назад у сырыя.

У галіне фізікі адзначаныя амерыканскія навукоўцы, якія даказвалі, што памер сысуноў ніяк не звязаны з часам іх мочаспусканя — і даказалі ж!

Эканамічную прэмію атрымаў кіраўнік паліцыі Бангкока. Ён прапанаваў выплачваць паліцэйскім прэмію за адмову ад хабару.

Шнобелеўская прэмія па літаратуры прысуджана даследчыкам, якія займаліся лінгвістычным аналізам. Яны даказалі, што як мінімум у дзесяці розных мовах, якія не знаходзяцца паміж сабой у моўным сваяцтве, выклічнік «а?» выкарыстоўваецца для таго, каб нешта перапытаць у суразмоўцы.

Медыцынскай прэміяй сёлета вырашана ўзнагародзіць аўтараў чатырох даследаванняў, так ці інакш звязаных са шкодай і карысцю пацалункаў.

Прэмія па біялогіі дасталася навукоўцам з ЗША і Чылі. Яны высветлілі, што, калі курыцы прымайстраваць пратэз хваста, яна будзе хадзіць як дыназаўр.

Уладальнікамі Шнобелеўскай прэміі па матэматыцы сталі даследчыкі, якія падлічылі, што мараканскі султан Ісмаіл мог займацца сэксам штодня на працягу 32 гадоў для таго, каб зачаць 888 дзяцей.

У катэгорыі «медыцынская дыягностыка» прыз атрымалі навукоўцы, якія даследавалі боль у жываце. Высветлілася, што ўзмацненне болю пры пераездзе праз ляжачага паліцэйскага сведчыць аб наяўнасці вострага апендыцыту.

Нарэшце, Шнобелеўскую прэмію ў намінацыях «псіхалогія» і «энтамалогія» атрымалі даследчыкі, якія даведаліся, укусы якіх насякомых самыя балючыя і якія вобласці цела чалавека найбольш успрымальныя да такіх укусаў.

**Ягор Марціновіч**




Даследчык Бруна Гросі паказвае «курыцу-дыназаўра»

Фотафакт



**Раздзяваліся за абутак**

Смелую акцыю правяла ў Гродне абутковая крама «Арызона». Кліентам прапаноўвалі прыйсці ў купальным касцюме, выбраць пару абутку і забраць яе бясплатна. Акцыя дзейнічала цягам дня.

## Абама запрасіў у госці падлетка-вынаходніка

Перад тым паліцыя затрымала хлопца наўпрост у школе.

Прэзідэнт ЗША Барак Абама запрасіў у Белы дом 14-гадовага школьніка, затрыманага ў штаце Тэхас за самаробны электронны гадзіннік, які персаналам школы быў прыняты за бомбу.

«Класны гадзіннік, Ахмед. Хочаш прынесці яго ў Белы дом? Мы павінны натхняць як мага больш дзяцей, каб яны займаліся навукай. Гэта тое, што робіць Амерыку вялікай», — напісаў Абама ў *Twitter*.





Дзевяцікласнік Ахмед Махамед быў затрыманы паліцыяй горада Ірвінг (штат Тэхас), пасля таго як прынёс у школу самаробны электронны гадзіннік. Паліцыя арыштавала падлетка, прыняўшы выраб за бомбу. Са школы яго выводзілі ў кайданках.

Па словах Ахмеда, ён усяго толькі хацеў уразіць на сяброў і настаўнікаў. «Аднак калі я паказаў гадзіннік настаўніцы, яна падумала, што гэта пагроза для яе», — патлумачыў ён.

**Паводле Reuters**

## Як хутка бегае самая хуткая чарапаха?

У 44,7 раза павольней за Усэйна Болта.

У Кнізе рэкордаў Гінэса новы рэкорд: самая хуткая чарапаха ў свеце. Рэкорд усталявала Берці з паўднёвага ўсходу Англіі — яна палепшыла папярэдні чарапашы рэкорд у больш чым два разы.

Берці прабегла 5,48 метра за 19,59 секунд — хуткасць склала 0,28 метра на секунду альбо 1,008 кіламетра на гадзіну.

Гаспадары Берці падазравалі, што чарапаха хуткая, і вырашылі гэта праверыць. Аказалася, самая хуткая з тых, чыю хуткасць бегу замяралі.

Чалавек бегае хутчэй: сусветны рэкардсмен у бегу на 100 метраў Усэйн Болт развівае хуткасць да 44,7 км/г (між 60-м і 80-м метрамі стаметроўкі). А самая хуткая жывёла на Зямлі, гепард, развівае хуткасць да 93 км/г (гэта афіцыйна зафіксаваны рэкорд, па непацверджаных звестках і больш за сотню).

**Аляксандр Арсёнаў**

## У Мінску спеюць бананы

На Мінскай агароднінай фабрыцы вырасцілі бананы. Для іх вырошчвання на прадпрыемстве не выкарыстоўваюць падкормку і лямпы: расліне хапае беларускага сонца.

Як распавёў галоўны аграном па ахове раслін Мінскай агароднінай фабрыкі Аляксандр Радушкевіч, ураджай бананаў збіраюць двойчы ў год: у маі і верасні. На гэты раз саспелі дзве галінкі вагой 5 кг кожная. Іх аддадуць на дэгустацыю работнікам прадпрыемства. Бананы мініяцюрныя — даўжынёй усяго 10—15 см — і вельмі салодкія.

**Паводле «Мінск-Навіны»**

Кіно

## Сюррэалістычны Дастаеўскі

**Клетка**
**Жанр:** драма
**Рэжысёр:** Эла Архангельская
**У ролях:** Данііл Співакоўскі, Алена Радзевіч, Міхаіл Гаравы, Дзмітры Нагіеў, Яўген Кулакоў, Ірына Рахманава, Ёла Санько, Дзмітры Праданаў
Расія, 120 хв.
**Адзнака:** 6

Ліхвяр жэніцца з беднай 16-гадовай дзяўчынай, каб пацешыць сваё самалюбства і пачаць новае жыццё. Шлюб Ціхай і Невядомага пазбаўлены любові і шчасця. Здавалася б, звычайная бытавая гісторыя, але паміж мужам і жонкай успыхвае сапраўдная псіхалагічная вайна, якая разбурае характары абаіх і прыводзіць да страшных наступстваў. Невядомы ў літаральным сэнсе «заключае» жонку ў клетку, але ў выніку сам аказваецца яе палонным.

Незвычайную экранізацыю аповесці Дастаеўскага «Ціхая» прапануе гледачам расійская рэжысёрка Эла Архангельская. Гэта творчае пераасэнсаванне класічнага сюжэту нярогнага шлюбу ў бясчасавых умоўных дэкарацыях, месцам для якіх стаў Пецярбург. Псіхалагічныя жарсці Дастаеўскага ўзяўся апрацаваць стваральнік мноства сцэнароў, уладальнік залатой галінкі Канскага фестывалю Юрый Арабаў. Ён надзвычай вольна падышоў да сюжэту, увёўшы новага персанажа і выкрасліўшы некаторыя падзеі першакрыніцы. Так, ліхвяр Невядомы ў стужцы цяпер спавядаецца сучаснаму святару, а замест металічнага ложка з'яўляецца клетка.

«Сучаснасць і мінулае мы звязалі ў адзінае цэлае канцэпцыяй бясчасавасці. Нейкія сучасныя дэталі адзення, інтэр'еру арганічна ўпісаліся ў мінулае, а на фоне ў нас можа праехаць і машына, і карэта. Пецярбург — вечны горад, — растлумачыла рэжысёрка Эла Архангельская. — У які б час, у якіх бы дэкарацыях гэтая гісторыя ні разгортвалася, адносіны мужчыны і жанчыны — гэта галоўнае, а ўсё астатняе з'яўляецца толькі фонам».

Аднак надаць гісторыі сапраўдную драматычнасць стваральнікі пасаромеліся. Яна найбольш падобная на нейкі сюр або сон і адметная некаторымі каларытнымі персанажамі. Гэта не даслоўная экранізацыя класікі, а фактычна аўтарскі праект Арабава, які браў шчыльны ўдзел у здымках.




**Настасся Уласава**

# «Я раней не разумеў, у чым небяспека расійскіх каналаў»

Я раней не разумеў, у чым небяспека расійскіх каналаў, якія рэтранслюе наша Белдзяржтэлерадыёкампанія. Ну, ідуць сабе ды ідуць. Бо хто яшчэ тры гады таму мог меркаваць, што побач з намі Расія развяжа вайну. Пасля падзей ва Украіне ўсё стала ясна.

Чалавек глядзіць расійскае тэлебачанне, серыялы, навіны, і з часам для яго гэта робіцца нормай. Прапаганда — гэта яшчэ паўбяды. «Мастацкія» серыялы пра мянтоў, войска, побыт нашых суседзяў намнога небяспечнейшыя. Бо яны ментальна рыхтуюць наш народ да паглынання. Калі — не дай Божа — Крамлю спатрэбіцца чарговае «маленькае пераможнае ўз'яднанне», нашы людзі, ускормленыя расейскімі тэлеканаламі, проста не адчуюць розніцы.

Інфармацыйную прастору трэба бараніць — без яе няма нацыі і дзяржавы.

**Іван Корзун, Смалявічы**

# Чаму не наладжана сістэма закупкі яблыкаў?

З года ў год тое самае — пад восень тоны яблык гніюць у садах. Калі ўжо дзяржава ўкладзе сродкі і наладзіць сістэму закупкі і перапрацоўкі яблык на сок? Каб не так, як сёння, за капейкі прымалі яблыкі, а за грошы, якія апраўдалі б работу ў садзе. У людзей з'явіцца не толькі дадатковы заробак, але і стымул, каб сады ў нас былі прыгожыя і абробленыя, як у Еўропе.

**Сяргей Карпінчык, Нясвіжскі раён**



**Меркаванні**

# Мікалай Улаховіч і ўспамін Аляксандра Салжаніцына



Адзін журналіст па матывах свайго інтэрв'ю з Мікалаем Улаховічам напісаў: «Магчыма, некага здзіўлю, але ў размове сам-насам гэта вельмі ветлівы і прыстойны чалавек. І склалася ўражанне, што яго ў сёлетняй выбарчай кампаніі выкарыстоўваюць гэтаксама, як некаторых, так скажам, іншых кандыдатаў».

Мне ў сувязі з гэтым прыгадаўся эпізод з кнігі Аляксандра Салжаніцына «Бадалася цяля з дубам»:

«Калі ў снежні 1962 года на крамлёўскай сустрэчы Твардоўскі прадстаўляў мяне Хрушчову — нікога з Палітбюро побач не было, ніхто не падышоў. Але калі ў наступны перапынак Твардоўскі вадзіў мяне па фае і знаёміў з пісьменнікамі, кінематаграфістамі, мастакамі на свой выбар, у кіназале падышоў да нас высокі, хударлявы, з вельмі недурным тварам чалавек — і ўпэўнена працягнуў мне руку, вельмі энергічна пачаў трэсці яе і казаць нешта пра сваё крайняе задавальненне ад «Івана Дзянісавіча», так трос, быццам зараз бліжэйшага і прыяцеля ў мяне не будзе. Усе іншыя сябе называлі, а гэты не назваў. Я пацікавіўся: «З кім жа ...» — незнаёмы і тут сябе не назваў, а Твардоўскі мне дакорліва напаўголасу: «Міхаіл Андрэевіч...» Я плячыма: «Які Міхаіл Андрэевіч?..» Твардоўскі з двайным дакорам: «Ды Суслаў!!»... Але вось загадка: чаму так палка ён мяне вітаў? Бо пры гэтым і блізка не было Хрушчова, ніхто з Палітбюро яго не бачыў — значыць, не падхалімства. Для чаго ж? Выраз шчырых пачуццяў? Закансерваваны ў Палітбюро свабодалюбец? — Галоўны ідэолаг партыі!.. Няўжо?».

Кім на самай справе быў Міхаіл Андрэевіч Суслаў — добра вядома. Таму не трэба паддавацца на знешнюю абаяльнасць. Замаскіраваныя ворагі не перастаюць быць ворагамі. І ветлівасць ды ўсмешлівасць зусім не прадвызначае прыстойнасці.

**Алесь Пашкевіч, Facebook.com**



**Удакладненне**

Гарадзея не Стаўбцоўскі раён, а Нясвіжскі, канечне. У №33 была дапушчаная такая памылка.

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**



# ААТ «Апазіцыя»



Прачытаў сёння ў аднаго чалавека добрай волі каментар у стылі «Усё, на што здольная наша «апазіцыя» — гэта фотажабы» і абліўся горкаю слязою. Як жа мяне замілоўваюць, здаецца, недурныя людзі, якія білет не набывалі, але чакаюць пуцёвачку на Гаваі ці хаця б двухкасетны магнітафон ад чарговай камуляцыі спортлато. «Ну вот мы и приехали, — здравствуйте, девочки».

Як па турмах хадзіць — дык гэта няхай Статкевіч, Саннікаў, Лябедзька, Севярынец і Дашкевіч. А як на дурняк воцат пахлябаць — дык нас паклічце. Пры гэтым, каб не было сумна, можаце нас пакуль пазабаўляць, заваяваць нашую лаяльнасць і сімпатыю. І тады мы абяцаем падумаць, за каго аддаць свой голас. Дык вось, шаноўны электарат, у сітуацыі, калі выбараў няма, свой голас можаш дэманстраваць ласям у Белавежскай пушчы ці на шоу «Голос России» в прайм-тайм на первом-втором-третьем и компоте.

Вынікаў ад беларускіх палітыкаў, якія дзейнічаюць пад ярмом дыктатуры, можа дамагацца той, хто ў гэтых людзей інвеставаў.

Пакуль мы-беларусы-мірныялюдзі (патрэбнае падкрэсліць) самі не пачнём інвеставаць у беларускую справу альбо свае грошы, альбо свой час, альбо здароўе ці іншыя *intangible assets*, не будзе ніякай беларускай палітыкі і паўнавартасных адносінаў выбарцаў з палітыкамі.

Без інвестыцый не можа быць ніякіх дывідэндаў. Болей за тое, інвестыцыі бываюць цалкам стратнымі — *welcome to the real world of capital loss and gain*. А пакуль на самы пачатак, купіце сабе пару-тройку акцыяў ААТ «Апазіцыя», каб потым дапамагацца ад яе менеджараў выніковай справаздачы за папярэдні інвестыцыйны перыяд.

**Алесь Лукашэвіч, Facebook.com**

**Вы прасілі напісаць**

# У Мінску па начах невядомы палюе на катоў са зграяй ягдтэр'ераў

У «Нашу Ніву» звярнулася чытачка з незвычайным паведамленнем. Па яе словах, ноччу ў Мінску хтосьці адмыслова нацкоўвае паляўнічых сабак на катоў.

Інэса Кавалёва жыве ў Цэнтральным раёне сталіцы на вуліцы Панфілава.

«Некалькі тыдняў таму жанчына хадзіла па нашым раёне і шукала, хто трымае шмат сабак. Яна расказала, што бачыла, як зграя сабакаў загрызла двух яе катоў. А потым мы заўважылі, што бяздомныя каты пачалі знікаць. А часам іх трупікі проста валяліся на абочыне», — кажа Інэса.

Вуліца Панфілава — гэта прыватны сектар, свойскіх жывёл там часта выпускаюць у двары, пагуляць. Пару дзён таму, як звычайна, выпусціла сваго ката і Кавалёва.

«А першай ночы я пачула, што ён дзіка вішчыць. Выскачыла на двор і пабачыла, што яго рве зграя сабакаў. Прычым гэта былі не дварнягі, а 6—7 дагледжаных ягдтэр'ераў. І калі я выйшла, пабегла да іх, то пачула такі адмысловы свіст, як са спецыяльных свісткоў для дрэсуры, і гэтыя сабакі адразу збеглі ўніз па вуліцы. Значыць, хтосьці стаяў там і назіраў за ўсім гэтым», — распавядае жанчына.

Паглядзець, куды дакладна пабеглі тыя сабакі, Інэса не змагла — яе ўвага была занята катом.

«Ён быў яшчэ жывы, але ўвесь пераламаны. Прычым яны не раздзерлі таго ката, а менавіта душылі. Значыць, хтосьці дрэсіруе гэтых сабак да палявання на пушнога звера», — мяркуе Кавалёва.

Гэта дакладна не чалавек з раёна, сцвярджае яна, бо суседзі б ведалі. Раніцай жанчына абмяркоўвала выпадак з імі — ніхто нічога не ведаў. Столькі сабак таксама ніхто з тых, хто жыве побач, не трымае.

«Хтосьці адмыслова прыязджае на наш раён, бо тут шмат сваіх і бяздомных катоў, і зацкоўвае іх сабакамі», — кажа Кавалёва.

Інэса падала заяву ў міліцыю. Па яе словах, там з яе пасмяяліся, але заяву прынялі.

«Гэта, натуральна, забойства. Свойская жывёла — гэта ж член сям'і, — кажа Кавалёва. — Тым больш гэта горад, а не лес. Што ён робіць, той гіцаль?»

«Наша Ніва» звязалася з некалькімі заводчыкамі ягдтэр'ераў, але яны ўпэўнілі, што нічога не ведаюць пра такія выпадкі. Па іх словах, парода не надта рэдкая, падобных сабак трымае шмат хто.

У прэс-службе ГУУС Мінгарвыканкама паведамілі, што калі камусьці вядома пра аналагічныя выпадкі, то пра гэта трэба неадкладна паведаміць у міліцыю. Ацэньваць дзеянні «паляўнічага» будзе Следчы камітэт, але, падкрэслілі, у ГУУС, імаверна, злачынцу будзе пагражаць крымінальная справа.

Кот Інэсы Кавалёвай пасля таго нападу не выжыў, памёр.

**Улад Швядовіч**



**Ягдтэр'ер**

нямецкая паляўнічая парода. Выкарыстоўваецца для здабычы звяроў, якія жывуць у норах, галоўным чынам лісіцы, барсука і янотападобнага сабакі. Лічыцца даволі складаным у выхаванні, патрабуе вопытных рук, вялікіх выдаткаў часу, уважлівай дрэсіроўкі. Пры недахопе належнага выхавання ў некаторых выпадках сабака проста не паддаецца кантролю, часам можа быць агрэсіўным ў адносінах да свойскіх жывёлаў.

# Забойства пенсіянера-гея раскрылі праз 15 гадоў

Злачынцу правяралі на аналагу дэтэктара хлусні.

У 1999 годзе ў кватэры ў Мінску выявілі труп пенсіянера. Раскрыць забойства ўдалося праз 15 гадоў. Увесь гэты час сведкі захоўвалі маўчанне. Аказалася, што забітага і злачынцу, на той момант 17-гадовага хлопца, звязаў канфлікт на сэксуальнай глебе.

Труп мужчыны з мноствам цялесных пашкоджанняў раніцай убачылі суседзі па пад'ездзе. Дзверы ў яго кватэру ноччу нехта выбіў. На целе былі раны і ўдары. На сценах кватэры — кроў. У ванным пакоі з крана цякла вада. З месца злачынства канфіскавалі нож з выгнутым лязом.

Суседка чула, як каля другой-трэцяй гадзіны ночы ў пад'ездзе пачуўся жаночы крык, хтосьці бегаў па лесвіцы. Жанчына на шум не выйшла.

Аказалася, што пенсіянер жыў адзін, меў гомасэксуальныя сувязі.

На працягу 15 гадоў праводзіліся аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па справе, а ўлетку 2014 з'явілася інфармацыя аб тым, што да забойства, магчыма, мае дачыненне нейкі Іван. Ён на той момант знаходзіўся ў турме за крадзеж. Расследаванне забойства аднавілі.

Удалося знайсці знаёмых Івана па 1999 годзе. Высветлілася, што ў той вечар у двары двое маладых мужчын, Іван і Мікіта, пазнаёміліся з пенсіянерам і выпівалі выпіць ужо ў яго кватэры. Па дарозе пенсіянер прапанаваў Мікіту заняцца сэксам. Той пагадзіўся.

На месцы аказалася, што пенсіянеру у тым ліку сімпатычны і 17-гадовы Іван... Такую цікавасць да сябе хлопец расцаніў як спробу згвалтавання. Канфлікт скончыўся смерцю пенсіянера — эксперт налічыў каля 60 удараў у вобласць галавы і грудзей патэльняй і нажом.

Гісторыя атрымала нечаканы паварот: маладыя людзі аказаліся зачыненымі ў кватэры з трупам. Пенсіянер замкнуў кватэру знутры, а ключ ад замка знайсці не ўдалося.

Іван патэлефанаваў знаёмым, з якімі да гэтага выпіваў, і папрасіў іх прыйсці і выбіць дзверы. Менавіта іх тупат і крык ноччу і пачула суседка.

Затым мужчына, які выбіў дзверы, вырашыў вымыць у ваннай абутак. Сыходзячы, не закруціў кран, бо баяўся, што на ім застануцца адбіткі пальцаў. Злачынец жа свае адбіткі ў кватэры выцер, а патэльню паклаў у пакет і потым закінуў на дах трансфарматарнай будкі.

Маладыя людзі дамовіліся нікому нічога аб здарэнні не распавядаць.

Раскрыць злачынства ў тым ліку не ўдавалася праз тое, што ні злачынца, ні сведкі не былі да таго, што адбылося, знаёмыя з забітым. Чацвёра з іх жылі ў іншых раёнах Мінска, адзін у Магілёве. Пры гэтым сам Іван праз некалькі тыдняў пасля забойства трапіў у турму за крадзяжы.

Следчыя адзначаюць, што раскрыць справу таксама дапамагла псіхафізічная экспертыза, якую ў Беларусі да гэтага праводзілі ўсяго тры разы. Яна нагадвае даследаванне на дэтэктары хлусні. Экспертыза паказала, што Іван ведаў пра забойства.

Па фатаграфіі ён апазнаў сваю ахвяру і без праблем знайшоў кватэру, у якой усё адбылося, хоць быў у ёй толькі раз у жыцці.

У сакавіку 2015 Івана за забойства з асаблівай жорсткасцю прысудзілі да 9 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі. Да яго ўжылі Крымінальны кодэкс, які дзейнічаў у момант здзяйснення злачынства. Сведкі турмы пазбеглі, бо па законе тэрмін прыцягнення да крымінальнай адказнасці мінуў.

**Паводле: Наталля Касцюкевіч, Tut.by**

## У Сочы затрымалі беларуса, які забіў свайго бацьку

У горадзе Сочы на кантрольна-прапускным пункце «Адлер Аўтадарожны» паліцэйскія затрымалі 52-гадовага ўраджэнца Беларусі, які знаходзіцца ў міждзяржаўным вышуку за забойства.

Па версіі следства, 14 жніўня 2015 года ў Гомелі мужчына збіў свайго 82-гадовага бацьку-інваліда. Ад атрыманых траўмаў пенсіянер памёр на месцы здарэння.

Праваахоўнікі, вылічыўшы месцазнаходжанне падазраванага, паспрабавалі затрымаць яго, але зламыснік сплыў ад іх па рацэ. Затым мужчына аўтаспынам дабраўся да горада Сочы. Там ён планаваў перасекчы мяжу з Абхазіяй, а затым праз Турцыю дабрацца да Англіі. Аднак на КПП «Адлер» яго спынілі для праверкі дакументаў, пасля чаго і выявілі, што ён знаходзіцца ў вышуку.

Падазраваны быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Цяпер вырашаецца пытанне аб этапаванні яго ў Беларусь.

**УШ**

## У Стоўбцах немаладая пара занялася сэксам проста на цэнтральнай вуліцы горада

«Каханне» спынілі супрацоўнікі праваахоўных органаў, якіх выклікалі відавочцы.

Як паведамілі ў міліцыі, па матэрыялах праверкі супраць 48-гадовага жыхара горада распачата крымінальная справа, яго пасадзілі пад варту.

Сяргей Багач, намеснік начальніка раённага аддзела міліцыі Стаўбцоўскага раёна, расказаў, што мужчына жыў гэткім сучасным прымаком — то ў адной сужыцелькі пабудзе, то ў іншай. Стала нідзе не працаваў. Затое пачынаючы з 2007 года ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці 15 разоў. Дробнае хуліганства, распіццё спіртнога ў грамадскіх месцах... А ў 2009—2010 гадах ён панёс адказнасць за злачынствa, аналагічнае таму, што здзейсніў на вачах у жыхароў Стоўбцаў.

Пра лёс партнёркі 48-гадовага мужчыны нічога не паведамляецца.

**СГ**

## «Нявеста» была ў коме, таму махляр прыйшоў у ЗАГС з «актрысай»

Жыхарка Магілёва Ганна не мела ні сям'і, ні дзяцей. Доўгія гады яна жыла разам з маці, а калі тая памерла, да яе пераехаў кавалер Анатоль. У канцы 2013 года ў Ганны знайшлі пухліну, неўзабаве яна памерла.

На пахаванні сваякі выпадкова даведаліся, што Ганна і Анатоль паспелі распісацца, а значыцца, ён стаў адзіным спадкаемцам двухпакаёвай кватэры. Вырашылі звярнуцца да праваахоўнікаў.

У судзе Кастрычніцкага раёна Магілёва Анатоль кляўся: Ганна ўпрошвала яго ўзаконіць адносіны. Але ў Магілёве ў ЗАГСе — чарга, а пакольki нявеста была ўжо сур'ёзна хворая, прыйшлося паспяшацца. Знаёмы падказаў: маўляў, ёсць у раён, у сельскі выканкам, там вас зарэгіструюць без затрымкі. Анатоль учапіўся за гэтую ідэю. У выніку ў пашпартах з'явіўся штамп аб шлюбе.

Анатоль запэўніваў: усё было па-сапраўднаму, яны з Ганнай і сведкамі паехалі ў вёску на таксі, па дарозе купілі кветкі, там пасля рэгістрацыі адкаркаваў бутэльку шампанскага.

У тым самым сельскім выканкаме Шклоўскага раёна, зрэшты, сапраўды дакументальна заверана: вяселле адбылося. Подпіс нявесты стаіць у кнігах аб атрыманні пасведчання аб шлюбе і аб запісе рэгістрацыі.

Кіраўніца справамі сельвыканкама прызналася: падавалі дакументы на рэгістрацыю шлюбу Анатоль прыехаў без нявесты. Пераканаў, маўляў, у нявесты цяжка хворы сваяк, яна ад яго не адыходзіць, увайдзіце ў становішча, прыміце ў мяне аднаго заяву. А ўжо на вяселле — як і трэба, з'явімся з нявестай. І прыехаў — з дзяўчынай, двума сведкамі. Кім была тая дзяўчына, колькі яна зарабіла, сыграўшы ролю нявесты, так і засталося таямніцай.

Сваё заключэнне далі і спецыялісты РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі, якія пацвердзілі, што з канца 2013 да пачатку лютага 2014 года Ганна знаходзілася ў стацыянары бальніцы ў стане комы. То бок не прыходзіла ў прытомнасць, не магла варушыцца, гаварыць. Яе жыццё медыкі падтрымлівалі з дапамогай апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх, кармілі праз зонд. Пасля хуткая забрала Ганну ў Магілёўскую гарадскую бальніцу, дзе яна і памерла прыкладна праз месяц, так і не прыходзячы ў прытомнасць.

Суд прызнаў шлюб несапраўдным, права ўласнасці на кватэру памерлай перайшло да яе прамых сваякоў. Больш за тое, у дачыненні да Анатоля пачалі крымінальную справу за «махлярства ў асабліва буйным памеры». Сёлета суд Шклоўскага раёна вынес вердыкт: пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

**Паводле Sb.by**

## Жанчыны пабіліся на сметніку

У Ваўкавыскім раёне на сметніку жанчыны-бамжы пасварыліся, высвятляючы, хто будзе першай сартаваць прывезеныя адкіды. Спачатку на словах, а пасля сталі качаць адна адну ў брудзе. Часовую перамогу атрымала маладзейшая. Сеўшы зверху на суперніцу і трымаючы тую на зямлі, яна адчула вострыя боль у грудзях. Гэта муж паваленай жанчыны пасля просьбаў адпусціць жонку ткнуў «пераможцу» бойкі нажом. Яе завезлі ў шпіталь, жыццю цяпер нішто не пагражае. Заведзеная крымінальная справа за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама**

## Сціслa

### Загінуў, седзячы на дарозе

У вёсцы Вішанька Кіраўскага раёна кампанія арганізавала застолле. Уначы 53-гадовы мужчына кудысьці сышоў, і ягоны 30-гадовы сын вырашыў знайсці бацьку. Хоць у сына ніколі не было правоў кіроўцы, ён сеў за стырно «Жыгулёў» і выправіўся на пошукі. Рухаючыся па мясцовай дарозе, мужчына не заўважыў бацьку, які сядзеў на дарозе, і наехаў на яго. Ад атрыманых траўмаў той памёр.

### Школьніца памерла на футбольнай трэніроўцы

Трагедыя адбылася на азнаямляльных занятках футбольнай секцыі фізкультурна-спартыўнага цэнтра дзяцей і моладзі Ленінскага раёна Мінска. Незадоўга да заканчэння заняткаў сямікласніца, спаслаўшыся на галавакружэнне, выйшла са спартыўнай залы. Праз некалькі хвілін яна павалілася проста ў калідоры.

### Начальнік спарткомплексу сушыў марыхуану на працоўным месцы

35-гадовы начальнік парку адпачынку спарткомплексу «Нёман» у Каробчыцах пад Гроднам захоўваў марыхуану на гарышчы адміністрацыйнага будынка. Там жа яе і здабываў, высушваючы каноплі. У яго было канфіскавана каля аднаго кілаграма канопляў.

### Прыраўнавала і забіла

У рэанімацыі Жыткавіцкай раённай бальніцы памёр 28-гадовы мясцовы жыхар, якога ўдарыла нажом у грудзі 24-гадовая сужыцелька. Ранкам абодва нападнікі вярнуліся з гасцей і пасварыліся на глебе рэўнасці. Мужчына схапіў кухонны нож і нанёс удар жанчыне ў калена. Тая выхапіла нож і ў адказ некалькі разоў ударыла ў вобласць грудной клеткі.

### Міліцыянта прысудзілі да васьмі гадоў

Былы падпалкоўнік міліцыі, 48-гадовы Аляксандр Ермакоў, асуджаны на восем гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Акрамя таго, суд пастанавіў пазбавіць яго звання і канфіскаваць маёмасць: сталічную кватэру, лецішча, гараж і аўтамабіль. Таксама трэба заплаціць дзяржаве 620 мільёнаў «неабгрунтавана атрыманай выгады». Дэталі крымінальнай справы не выдаюцца. Ермакоў прызнаны вінаватым у падбухторванні пры дачы хабару, а таксама ў махлярстве ў асабліва буйным памеры.

### Згвалціў 11-гадовую сястру жонкі

Суд Брэсцкага раёна прысудзіў 30-гадовага мужчыну да 17 гадоў турмы за неаднаразовае згвалтаванне малалетняй дзяўчынкі. Абвінавачаны жыў з жонкай і дзіцем у адным з садовых таварыстваў недалёка ад Брэста. Часам яны прыязджалі да сваякоў жонкі на сямейныя мерапрыемствы. Там мужчына і пазнаёміўся з 11-гадовай сястрой сваёй жонкі. У судзе былі даказаны тры эпізоды злачынстваў.

**ЯМ**


RESMUSICA.COM

# Беларуская оперная спявачка Надзея Кучар трыумфальна дэбютавала ў Вялікім тэатры Жэневы

Сезон там адкрыўся патрыятычнай операй Джаакіна Расіні «Вільгельм Тэль». Пастаноўка цягнецца «нудна і сонна, — піша выданне resmusica.com, — пакуль на сцэне не з'яўляецца Надзея Кучар у ролі Матыльды і не пачынае спяваць». «Яе голас выключна лёгкі, а прыгажосць лініі спеву нагадвае Кацю Рычарэлі, якая выконвала на жэнеўскай сцэне тую самую ролю ў верасні 1979 года!» — усклікае рэцэнзент Жак Шміт.

«Ад харызмы Надзеі Кучар сцэна заззяла, — піша выданне, — публіка прачнулася і ўзнагародзіла беларускую сапрана першымі ад пачатку спектакля апладысментамі, а тэнар Джон Осбарн у ролі Арнольда падцягнуўся ў выкананні да сваёй партнёркі.

Надзея Кучар вырасла ў Беларусі. Яна скончыла Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі па спецыяльнасці «музыказнаўства», але пасля вырашыла паступіць у кансерваторыю Санкт-Пецярбурга на вакал.

Яна спявала ў Мінску, Пермі, выйграла прэстыжны міжнародны конкурс у Брытаніі, і, мяркуюць крытыкі, яе чакае бліскучая міжнародная кар'ера. Магчыма, з Беларусі ўзышла зорка, роўных якой яшчэ не было.

**Сяргей Гезгала**

## На «Еўрабачанне» паедзе песня на беларускай мове

«Як асноўны фундатар нацыянальнага адбору, мы маем намер шукаць у гэтым годзе кампазіцыю на беларускай мове», — распавёў кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

За 12-гадовую гісторыю ўдзелу нашай краіны ў гэтым еўрапейскім музычным конкурсе Беларусь яшчэ ні разу не адпраўляла ўдзельніка з кампазіцыяй на роднай мове.

За апошнія 15 гадоў песні на роднай мове прынеслі ўдзельнікам «Еўрабачання» перамогу толькі тройчы.

«Такая статыстыка вельмі ўмоўная, — раіць не рабіць загадзя высновы тэлевядучы Яўген Перлін, які каментуе конкурс для «Беларусь-1». — На «Еўрабачанні» выйграе не мова, а піяр-кампанія выканаўцы. Напэўна, даўно варта было б паслаць беларускамоўную песню, паспрабаваць дакладна трэба, у нас вельмі прыгожая і меладычная мова!»

**Паводле kp.by**

## Сядзібу Лінова ў Пружанскім раёне зноў выставяць на аўкцыён: уладальнік-расіянін не здолеў давесці яе да ладу

Сядзібу і крухмальны завод набыў на аўкцыёне ў 2012 годзе расіянін Бліноў — адзін з уладальнікаў сумеснай беларуска-расійскай фірмы. Прычым захаванасць Ліноўскай сядзібы была адной з умоў продажу.

Праверка высветліла, што сядзіба паранейшаму ў кепскім стане. Вырашана адабраць сядзібу, бо ўласнік не мае сродкаў на рэстаўрацыю, і выставіць на новы аўкцыён. Невядома, ці застануцца ва ўласнасці расіяніна будынкі крухмальнага завода.

Маёнтак Трамбіцкіх у пасёлку Інтэрнацыянальны (Лінова) створаны Вінцэнтам Трамбіцкім на мяжы XVIII—XIX ст. Вінцэнт Трамбіцкі быў лоўчым Кобрынскім і шамбелянам Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пры сядзібе часткова захаваўся і закладзены Вінцэнтам Трамбіцкім парк.

**nn.by**



# Краіна, што жыве ў сёння

Піша **Віктар Марціновіч**.



Усяму гэтаму ёсць тлумачэнне. Адна акалічнасць, што дазваляе вычарпальна зразумець адразу ўсё. Тратуарную плітку. Нашы выбары. Вуліцу Зыбіцкую. Стан маёнтка Грабоўскага ў Дзіўшках (і факт таго, што ўсім начхаць). Спілаваныя дрэвы на Маркса. Музей ката. Дамы-пеналы на Дзяржынскага. Нашыя падручнікі па гісторыі.

Я зразумеў гэта толькі цяпер.

Беларусь — гэта 10 мільёнаў чалавек, што жывуць у адным толькі часе. У сёння. Для іх не існуе мінулага. Пра будучыню яны нават не здагадваюцца

Сёння літоўцаў, рускіх ці немцаў ёсць верхній прыступкай лесвіцы, што ідзе з учора. Яны памятаюць, як пачалі ўздымацца. У нас замест мінулага — жывога, сапраўднага мінулага — мемарыяльная дошка Машэраву, лекцыя па меліярацыі балот Палесся і Музей айчыннай вайны. Па-за гэтымі межамі — толькі сёння.

У гэтым сёння мы ходзім па ўласнай зямлі і натыкаемся на розныя незразумелыя нам рэчы.

Ну, вось ляжыць пад нагамі мова. Мы падымаем яе, ачышчаем ад бруду і пільна разглядаем. Рэч яўна старажытная. Бліскучае. Палохае. Незнаёмая, бы артэфакт з космасу. І жудасна робіцца: адкуль яна ўзялася тут, пасярод нашага гародчыка з бульбай ды памідорамі? Хто яе сюды прынёс? Што з ёй рабіць? Бо сёння ў нас зусім іншая мова. На гэтай мове трашчаць тэлевізар і бурболяць FM-вядоўцы ў маршрутках. І мы цацкаемся са знаходкай — прыносім яе дадому, спрабуем зразумець прызначэнне, але серыял пра вучылку ўсё ж цікавейшы. І мова прыхаваная далей ад вачэй, на паліцу ў спіжарні, побач з кубікам Рубіка.

Ці вось яшчэ. Мы соўгаемся па лясах у пошуку грыбоў, ходзім у крамы па цэлафанавы абутак і час ад часу побач з сабой бачым руіны. Яны моцна вытыркаюцца з нашага сёння. Таму што, па-першае, руіны. А цяпер руіны не будуюць.

Цяпер прынята, каб свежая фарба на сценах і тратуарная плітка з газонам і петуніямі — пад сценкамі. Цяпер дом мусіць нагадваць Вялікую Кітайскую сценку, у якой завяліся людзі.

І, па-другое, формы. Нейкія калоны, пілястры, балясіны, аркбутаны і пінаклі. Незразумела. Асабліва калі тваё сёння — гэта пад'езд у Каменнай Горцы, і з акна відаць шэсць тыповых дванаццаціпавярховікаў з аднолькавымі вокнамі. І вось мы пачынаем «асённіваць» гэтыя знаходкі. Часцей за ўсё знosім. Бо так прасцей. Але час ад часу знесці складана, бо ў нашым сёння яны апынуліся з нейкімі абарончымі граматамі, з сертыфікатамі аб прыналежнасці да спісу культурных помнікаў першай катэгорыі. Ні хто выдаў гэтыя сертыфікаты, ні чаму іх выдалі, мы не памятаем і не разумеем. Але сёння прынята паперы паважаць. А таму тое, што мусім захаваць, мы прыводзім у адпаведнасць. Дабудоўваем сучасны цэглай. Замазваем карнізы. Прыбіраем пілястры ў тэрмашубу. Навагрудак, Гальшаны, Нясвіж...

### У нас няма і будучыні: як катэгорыі, як стратэгіі і кірунку думкі

Гэта не амнезія. Гэта адчуванне сёння як адзінага магчымага часу. Гэта разуменне гісторыі як штукі, што з сёння ніяк не стасуецца. Наша гісторыя, нашае ўчора, належыць іншым людзям. Якія ўжо памерлі. І на іх магілках збудаваны гандлёвы цэнтр.

Мне цяжка вызначыць, калі гэта пачалося. Відавочна, не ў нулявых. І нават не ў 1994-м. Болей за тое, 1994-ы стаў наступствам нашага бясконцага сёння. Нічым іншым гэтае сёння скончыцца проста не магло.

Гэтая сітуацыя ўжо была, калі Машэраў бурыў старую Няміґу.

Мы жылі ў гэтым праклятым сёння ў 1919-м, калі дазволілі паахаваць БНР. Часам здаецца, што мы былі вырачаныя на адсутнасць заўтра яшчэ ў XVI стагоддзі. Калі ў ліпені 1569 года была падпісана Люблінская унія, што прывязала нашую некалі магутную дзяржаву да палякаў. А можа, і яшчэ раней, калі ў XV стагоддзі мы страцілі частку сваёй моцы і тэрыторый у спусташальных войнах з Масковіяй.

Я ведаю некалькі прыгожых краін, што жывуць без мінулага.

Напрыклад, Малайзія, якая з першабытнага стану, з каланіяльных джунгляў, пераскочыла адразу ў постмадэрн, так што ў «Старбаксе» вежаў Петронас у Куала-Лумпуры ты можаш сустрэць афіцыянта, які нарадзіўся ў племяннай хаціне дапісьменнага грамадства, у сям'і апранутых у скуры паляўнічых; цяпер хлопец на выдатнай англійскай мове тлумачыць адрозненні суматранскіх зерняў кавы ад яванскіх.

Але паміж беларусамі і малайцамі ёсць як мінімум два адрозненні: па-першае, у нас, у адрозненне да Малайзіі, ёсць не толькі выдатная старажытная гісторыя (у тым ліку дакаланіяльная), але і шматлікія спрадвечныя помнікі, што на яе ўказваюць.

Другое адрозненне больш сумнае. Рэч у тым, што малайцы, пры адсутнасці мінулага, апынуліся адразу ў заўтра.

Іх шматпавярховыя гарады, іх пнеўмацягнікі, іх чатырохузроўневыя транспартныя развязкі — тое, чаго тут, у Беларусі, застылай у сёння, не будзе нават праз 30 гадоў. У нас няма не толькі мінулага. У нас няма і будучыні. Як катэгорыі. Як стратэгіі і кірунку думкі. Мы не пераймаемся тым, як будуць сябе адчуваць жыхары Лябяжага, пазбаўленыя вадасховішча, — мы проста прадаём участкі на беразе пад няўцямных кавярні, забудоўваем тэрыторыю ля былога заказніка. Заўтра няма. Ёсць толькі прага прыбытку ў сёння.

Словы, якія мы не разумеем: «раней», «да гэтага», «планаваць», «пасля», «будзе».

Сёння, якое было ўчора, не мае мінулага часу. Сёння, якое надыдзе заўтра, — гэта тое ж самае, што і цяпер. Часу няма, ёсць чарганне момантаў тут і цяпер, як у «Дні сурка» з Білам Мюрэем.

Нехта паспявае прачытаць Чэхава і навучыцца іграць джаз на фартэпіяна, але, калі горад прачнецца, іх зноўку забудуць, бо яны былі ва ўчора, якога не існуе.

Як з гэтага выйсці? Час — катэгорыя індывідуальная. Я ведаю пра Люблінскую унію і віленскае барока. Я ведаю дзверы, за якімі хаваецца маё ўчора. А таму маё жыццё ідзе з мінулага ў будучыню. Запусціць час для ўсіх астатніх — не ў маіх сілах. Але той, хто ўважліва чытаў гэты тэкст, і сам усё зразумее.

**budzma.by**

# «За нашу агульную Свабоду мне не шкада часова страціць свабоду ўласную»

Партрэт палітычнага актывіста: таксіст **Леанід Кулакоў**.

Леанід Кулакоў — асоба цікавая. Звычайны таксіст, які не з'яўляецца членам аніякай палітычнай партыі, бярэ ўдзел у шматлікіх пратэстных пікетах і акцыях апазіцыі, пасля якіх нярэдка сядзіць на сутках. Прычым, як адзначае сам спадар Леанід, да 50 гадоў палітыкай ён увогуле не цікавіўся.

Кулакоў нарадзіўся ў Мінску. Рана, у пяць гадоў, страціў бацькоў, трапіў у інтэрнат. Пасля было войска. Служыў на флоце, штурманам у Севераморску. Падчас службы пазнаёміўся з жонкай — калі прыехаў у Мінск у кароткі адпачынак. Неўзабаве зладзілі вяселле, Кулакоў даслужваў тэрмін ужо жанатым. Пасля службы вярнуўся ў Беларусь: як кажа сам, не захацеў мяняць Мінск на Мурманск. У 1989-м у яго нарадзілася дачка.

«На выбары-94 я нават не хадзіў. Хто ў нас прэзідэнт, хто прэм'ер — мяне не цікавіла. Усе 90-я я быў увогуле апалітычным, — кажа Кулакоў. — Я працаваў выканаўчым дырэктарам на фірме, якая займалася экспартам тэхнікі: МАЗ, МТЗ. Мы дапамагалі разгружаць заводы. Але ў 2006 годзе прыватным фірмам забаранілі быць пасярэднікамі. І бізнэс наш развaліўся. Я пайшоў у таксісты».

І паціху, кажа Леанід, стаў разумець, што ў краіне не так усё і добра.

«У побытавым плане мяне ўсё больш-менш задавальняла. Зарабляў я нармальна, нават у таксі. Але я пачаў разумець, што ўладу трэба мяняць. Нельга, каб адзін чалавек кіраваў столькі часу. Я сёння называю яго «Бульбашбашы», па аналогіі з Туркменбашы», — пасміхаецца Леанід.

У 2006 годзе Кулакоў галасаваў за самага рэзкага кандыдата — Казуліна.

«Пасля выбараў Казулін заклікаў людзей падтрымаць тых, каго завезлі на Акрэсціна. Ну, і я пайшоў. Там жорстка разганялі, я бачыў гэта на ўласныя вочы. [Маецца на ўвазе шэсце да Акрэсціна на Дзень Волі 25 сакавіка 2006 года, якое было разагнана сілавікамі. Сам Казулін быў затрыманы падчас разгону і змешчаны ў СІЗА. Яму выставілі абвінавачанне ў арганізацыі групавых дзеянняў з прымяненнем выбуховых рэчываў. — Рэд.]. І вось тады я задумаўся», — узгадвае Кулакоў.

### Як стаў «невыпадковым»

19 снежня 2010, прагаласаваўшы за Андрэя Саннікава, Кулакоў пайшоў на Плошчу. Стаяў у першых шэрагах, быў збіты міліцыянтамі. Па яго словах, страціў прытомнасць і ачуняў толькі ў машыне хуткай, куды яго аднеслі неабыякавыя людзі. Пасля яго адвезлі ў прыёмны пакой, там Леанід паведаміў, што яго збіла міліцыя на Плошчы. Дактары павінны паведамляць пра выпадкі збіцця. Адпаведна, міліцыянты прыехалі і забралі Леаніда, але ён адчуваў сябе вельмі дрэнна, не разумеў, што яны ад яго хочуць. Неўзабаве яго адпусцілі.

«А праз пару дзён я чуў, як па ТБ казалі, што кожны, хто быў на Плошчы, будзе сядзець у турме. І тут мне пазванілі, сказалі, каб я прыйшоў у міліцыю. Усё, думаю. Сабраў сабе пакет — цёплыя рэчы, печыва, цыбулю — пайшоў. Жонку папярэджваць не стаў», — кажа Кулакоў

Але пасля працяглага допыту яго адпусцілі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«А потым, ужо ў студзені 2011, я выпадкова даведаўся, што ладзіцца пікет ля будынка КДБ, у падтрымку тых, каго затрымалі на Плошчы. Я вырашыў пайсці: мне было шкада людзей, якіх арыштавалі ні за што, — распавядае Кулакоў. — Прыйшоў. А я ж не ведаў нікога. Спачатку прыбіўся да журналістаў — думаў, гэта і ёсць пікет. Потым заўважыў, што прыйшла група людзей з партрэтамі палітвязняў. Падышоў, папрасіў партрэт Саннікава. Далі. Стаю, трымаю».

Неўзабаве пікетчыкаў затрымала міліцыя. Суткі Леанід правёў у камеры. Разам з ім быў актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Максім Вінярскі. Яны пазнаёміліся, пагутарылі. Затым — кароткі суд.

«Суддзя мне казаў: «Вы ж выпадковы чалавек тут». А я адказаў: «Адчуваю, што ўжо буду невыпадковым», — смяецца Кулакоў.

Леанід атрымаў штраф. Калі вярнуўся дахаты, жонка яму не паверыла, што пераночыў у міліцыі — была ўпэўненая, што бавіў час у палюбоўніцы. Потым, калі ўпэўнілася, што муж не хлусіць, спытала: «І што? І чаго ты гэтым дабіўся?»

### Два сцяжкі

«Жонка ніколі не ўхваляла тое, што я раблю. Яна мае такую ж пазіцыю, але баіцца. Па сённяшні дзень кажа мне: «І што? Які сэнс у тваіх акцыях?» — кажа Леанід. — Але дачка падтрымлівае. Яна ўжо дарослая, замужам. Жыве ў Еўропе. І вось яна заўсёды за мяне».

Пасля сутак у студзені 2011 Леанід адшукаў Вінярскага. Знаёмства працягнулася. Першы час Кулакова не клікалі на акцыі ці пікеты. Але паціху ён пачаў хадзіць на дазволеныя мерапрыемствы: Дзень Волі, Чарнобыльскі шлях. На іх Леанід стараўся трымацца Вінярскага.

«Так і ўліўся», — кажа Кулакоў.

Леанід пачаў з'яўляцца на акцыях у падтрымку палітвязняў, салідарнасці з Украінай. Адпаведна, нярэдка даводзіцца бавіць час на сутках. У выніку — прапускае працоўныя змены.

«Кіраўніцтва фірмы, дзе я працую, ставіцца да мяне з паразуменнем. Тут мне пашчасціла», — кажа Кулакоў.

У яго машыне вісяць два сцяжкі: беларускі бел-чырвона-белы і ўкраінскі. Ёсць кліенты, якія з-за гэтага не хочуць да яго садзіцца. Але часцей наадварот, калі бачаць сцяжкі, то з шэрага аўтамабіляў таксі выбіраюць менавіта машыну Кулакова.

### Смурод і холад

Леаніду Кулакову — 55 гадоў. Здавалася б, у такім узросце праводзіць па некалькі сутак за кратамі няпроста. Але ён ставіцца да гэтага па-філасофску.

«За свае канстытуцыйныя правы я выходзіў і буду выходзіць. І за гэта я не баюся аніякіх рэпрэсій. За нашу агульную Свабоду мне не шкада часова страціць свабоду сваю ўласную. І я разумею, і не выключаю, што аднойчы гэта ўсё можа скончыцца сур'ёзным тэрмінам. Але я гатовы. Бо раней ці пазней павінна штосьці змяніцца. Павінна», — упэўнены Леанід.

Цяжэй за ўсё, кажа ён, было ў Смалявіцкім ізалятары часовага ўтрымання, дзе ў маі гэтага года Леанід правёў 7 сутак адміністрацыйнага арышту. Кулакоў быў абвінавачаны ў несанкцыянаваным пікеце, які адбыўся 25 красавіка на Кургане Славы. Там ён знаходзіўся з бел-чырвона-белым сцягам і плакатам «Акупанты, вон». Суддзя Ліна Бародзіч прызнала Кулакова і арганізатарам, і ўдзельнікам «масавага» мерапрыемства — адзіночнага пікета.

«Камера маленькая ў падвале, у ёй паўзмрок, сцены і падлога — бетонныя. «Шконкі» з металу. Дзённага святла няма. Замест туалета стаяла 10-літровае вядро. Пах увесь час стаяў жудасны, мяне пастаянна ванітавала. І пры гэтым смуродзе мы з сукамернікам елі, — узгадвае Кулакоў. — Памяшканне вельмі халоднае. Мяне забралі з дому, я быў лёгка апрануты, і мяне ўвесь час там калаціла ад холаду. Калі зачыніць акенца, будзе трошкі цяплей, але будзе стаяць смурод. Калі акно адкрыць, смурод трошкі знікае, але будзе холадна. Я называў гэта «камерай катаванняў».

Але, кажа Леанід, супрацоўнікі ІЧУ ставіліся да яго нармальна: хоць на прагулкі і не выводзілі, але заўсёды звярталіся да яго па бацьку і на вы, пастаянна прыносілі кіпень, каб вязні канчаткова не змерзлі.

«Яшчэ мяне называлі Патрыётам. Бо на Кургане хтосьці напісаў: «Свабоду Надзеі Саўчанцы!». І калі ў мяне на судзе спыталі, ці не ведаю я, хто гэта зрабіў, я адказаў так: «Канечне ведаю! Патрыёты!» — пасміхаецца Кулакоў.

Штрафы плаціць са сваіх грошай. Смяецца, што ў нармальнага мужыка «заначка» на палюбоўніцу, а ў яго — на штрафы за палітычныя акцыі.

### Улада баіцца толькі рабочых

Ад 2010 года Леанід — актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». У апазіцыйныя партыі яго клікалі, але нікуды ён так і не ўступіў.

«Я галасаваў за Саннікава. І ўступіць у іншую партыю я лічу здрадай. Гэта няправільна».

На гэтых выбарах Кулакоў будзе назіральнікам. Але сам галасаваць не хоча: лічыць, што найлепшай стратэгіяй былі бы байкот. Прычым адзначае, што за сёняшніх кандыдатаў ён на Плошчу б не выйшаў.

«Хто яны такія: Гадукевіч, той казачок? А Караткевіч? Чаму я не бачыў яе ні на якой з акцый? Дзе яна была на Дзень Волі?» — усклікае Кулакоў.

Сам ён лічыць, што нешта змяніцца, толькі калі ўвесь народ зможа паказаць, што ён незадаволены тым, што адбываецца ў краіне.

«Інакш улада нічога нікому не дасць зрабіць. Народ павінен выйсці на вуліцы, выйсці на плошчы, без зброі. Армія не будзе страляць у безазброеных людзей, — упэўнены Кулакоў. — Павінны выйсці рабочыя, каб спыніліся заводы і фабрыкі. Улада баіцца толькі рабочых. І калі пачнецца суцэльны байкот дзейнага рэжыму — тады ўлада пойдзе на перамовы».

**Улад Швядовіч**

# Васіль Парфянкоў паранены на Данбасе

Былы палітвязень трапіў на «расцяжку», калі **выцягваў з-пад абстрэлу** ўкраінскага байца.

Васіль ваяваў у складзе добраахвотніцкага батальёна АУН ад пачатку зімы, а 13 верасня натрапіў на «расцяжку» пад Пяскамі. Спачатку яго даставілі ў рэанімацыю Днепрапятроўскай бальніцы, пасля — у Адэсу. Аскепак ад міны не зачапіў артэрыю, але моцна параніў нагу і сцягно — на лячэнне пойдзе месяц.

Як расказаў Парфянкоў радыё «Свабода», 13 верасня, яны з двума байцамі пайшлі ў выведку. Іх заўважылі сепаратысты і пачалі страляць з кулямёта, аднаго байца цяжка паранілі. Тады яны з другім байцом пачалі цягнуць хлопца назад — і падарваліся на «расцяжцы».

— «Расцяжку» амаль немагчыма ўбачыць, бо трава там па пояс. А мы яшчэ і Шульца (параненага) цягнулі — ужо часу глядзець пад ногі не было, — тлумачыць Васіль.



Парфянкоў быў асуджаны ў 2011 па справе аб «масавых беспарадках» у Мінску ў дзень прэзідэнцкіх выбараў. Выйшаўшы з турмы, ён з жонкай і сынам пераехаў ва Украіну, дзе запісаўся ў добраахвотніцкі батальён, каб ваяваць за незалежнасць і цэласнасць Украіны.

Дзясяткі беларусаў бяруць удзел у антытэрарыстычнай аперацыі на ўсходзе Украіны. Адзін з іх, Алесь Чаркашын з Брэста, загінуў, прынамсі трое былі паранены.

**СГ**

# У Лукашэнкі няма ўкраінскіх каранёў

**Гісторык-архівіст Зміцер Дрозд знайшоў дакументы, якія абвяргаюць пашыраную версію паходжання сям'і кіраўніка дзяржавы.**

Чуткі пра ўкраінскае паходжанне кіраўніка Беларусі курсуюць ужо больш за дзесяць гадоў. Пра свае ўкраінскія карані сам Лукашэнка казаў журналістам у 2013, падчас візіту ў Кіеў: «Кажуць, што я часткова хахол. Наша апазіцыя знайшла мае карані паміж Чарнігавам і Кіевам. Віктар Юшчанка прапаноўваў мне знайсці мой радавод. А я адказаў: навошта, якая розніца?»

У сакавіку 2014 у інтэрв'ю ўкраінскай праграме «Шустэр Live» ён выклаў трохі іншы варыянт гэтай жа версіі: «Я не хаваю сваіх каранёў. Віктар Юшчанка знайшоў мае карані дзесьці паміж Чарнігавам і Кіевам (дзесьці там прадзеды мае жылі) і кажа: «Аляксандр Рыгоравіч, давайце я Вам усе дакументы дастану». — «Віктар, ці трэба гэта? Я прызнаю, што мае карані ва Украіне. Гэта выдатны народ!»



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.



сельский совет Александрийский населенный пункт
хутора села Александр...

| Фамилия, имя и отчество домохозяина. | Народность домохозяина. | Мужск. пола. | Женск. пола. | Об. пола. |
|---|---|---|---|---|
| [illegible] | Белор. | 3 | 3 | 6 |
| [illegible] | „ | 1 | 4 | 5 |
| [illegible] | „ | 2 | 2 | 4 |
| Лукашенко Трофим Прохор. | „ | 2 | 4 | 6 |
| [illegible] | „ | 1 | 2 | 3 |

На афіцыйным сайце прэзідэнта Беларусі ў афіцыйнай біяграфіі пытанне нацыянальнасці не закранаецца, але ў інфармацыі для Цэнтральнай выбарчай камісіі ў 2010 годзе Лукашэнка назваў сябе беларусам.

Дык усё-такі ўкраінец ці беларус?

Для адказу на гэтае пытанне неабходна прасачыць, адкуль і калі з'явілася ўкраінская версія. Безумоўна, у абывацельскім уяўленні ўсе прозвішчы, якія заканчваюцца на —нка, — украінскія, але гэта не так. Яны рэдкія для заходняй або цэнтральнай Беларусі, але калі прасачыць спісы найбольш частых прозвішчаў у паўднёвай і ўсходняй Беларусі, то некалькі дзясяткаў такіх прозвішчаў уваходзяць у першую сотню па распаўсюджанасці. Наогул, падобныя прозвішчы маюць каля 10% беларусаў.

Усе артыкулы пра ўкраінскае паходжанне продкаў Аляксандра Лукашэнкі (нават артыкул у «Вікіпедыі») узыходзяць да артыкула, апублікаванага 15 жніўня 2003 у «Камсамольскай праўдзе» Віктарам Малішэўскім і Ульянай Бабаед «У Мінск з Канады ляціць траюрадны пляменнік Лукашэнкі».

Сюжэт не новы, яго добра апісалі ў сваёй класічнай камедыі «Залатое цяля» Ільф і Пятроў — у гісторыі пра «дзяцей лейтэнанта Шміта». Але тады трэці «сын» героя рэвалюцыі 1905 Панікоўскі быў скінуты з лесвіцы, а вось нашаму сучасніку Джэймсу Лукашэнку пашанцавала: хоць кіраўнік беларускай дзяржавы і не пажадаў з ім сустрэцца, і з лесвіцы яго не спусцілі, але яго гісторыя, трапіўшы ў «Камсамолку», стала асноўнай версіяй паходжання сям'і Лукашэнкі. Хоць, па сутнасці, ён не прывёў абсалютна ніякіх доказаў. Як бы смешна гэта ні гучала, але самы важкі аргумент у гэтай гісторыі быў такі: «Мой дзед і дзед прэзідэнта Лукашэнкі браты былі», — пацвердзіў бацька Джэймса Пятро Лукашэнка...

— А адкуль вы даведаліся, што даводзіцеся Аляксандру Лукашэнку сваякамі?

— Кузен з Глухава, з Украіны, напісаў ліст, што прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка нашай крыві, сваяк наш. Так мы і даведаліся ...»

Выходзіць, уся версія пабудавана на словах «кузена з Глухава». Гэтага аказалася дастаткова, каб «36-гадовы інжынер з канадскага горада Вініпег Джэймс Лукашэнка напісаў электронны ліст беларускаму прэзідэнту: «Мой прадзед і Ваш дзядуля былі братамі і пражывалі ў Сабічаве ва Украіне...» Тады «Камсамолка» прывязала такую даведку пра продкаў Джэймса Лукашэнкі: «Родны брат дзеда прэзідэнта, Васіль Іванавіч Лукашэнка, нарадзіўся ў 1870 годзе. У яго было чацвёра сыноў: Дзмітрый Васілевіч, Іван Васілевіч, Пётр Васілевіч і Васіль Васілевіч. Дзмітрыя Васілевіча і яго сыноў у 1933 годзе раскулачылі, ён паехаў, праўда, невядома куды».

У артыкуле было тлумачэнне, як продкі Джэймса патрапілі ў Канаду, але не было ніводнай версіі, як продкі кіраўніка Беларусі трапілі з Украіны ў вёску Александрыя Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці. Але гэтага аказалася дастаткова, каб у многія артыкулы і радаводы Лукашэнкі перабралася фраза аб яго продках: «Дзед, Трафім Іванавіч, родам з Украіны, Сумская вобласць»... Калі паглядзець на карту, то наўрад ці можна сказаць, што Сабічава знаходзіцца паміж Кіевам і Чарнігавам (хутчэй, Чарнігаў знаходзіцца паміж Сабічавам і Кіевам), але гэта ўсё вельмі блізка. Так што няма сумневу, што менавіта гэты радавод знайшоў (у «Вікіпедыі»?) Юшчанка для Лукашэнкі.

Адразу пасля публікацыі ў «Камсамольскай праўдзе», калі ўвага прэсы абрынулася на сціплы ўкраінскі гарадок, дзе збіраліся нават паставіць помнік вялікаму земляку, былі зроблены спробы праверыць гэтую версію, і скончыліся яны нічым... Хай сабе пра Трахіма Іванавіча Лукашэнку не памяталі старажылы гэтай вёскі (сярод апытаных была нават 95-гадовая мясцовая бабулька), але і ў Сумскім абласным архіве, дзе захаваліся метрычныя кнігі Сабічаўскай Пакроўскай царквы ад 1868 да 1917 года, сярод дзяцей казака Івана Лукашэнкі так і не знайшлі Трафіма.

Нягледзячы на гэта, хісткая версія ўкраінскага паходжання Аляксандра Лукашэнкі «пайшла ў народ» і так і засталася б кананічнай, каб б... архівы не захаваліся і ў Беларусі. Праўда, па Магілёўскай вобласці, дзякуючы намаганням бальшавікоў, якія адправілі вялікую частку архіва ў макулатуру, гэтых дакументаў захавалася не так шмат. Ёсць і яшчэ адна непрыемная асаблівасць Магілёўскай губерні — там да 1908 года практычна не пісалі прозвішчаў у сялян нават пры запісе ў метрычныя дакументы.

І ўсё-ткі дакументы захаваліся. Звесткі, знойдзеныя мной, адназначна сведчаць, што дзед кіраўніка Беларусі Трафім не быў сынам Івана (а значыць, і ўся версія з братамі з Сабічава трымаецца толькі на аўтарытэце кузена з Глухава)! Звалі прадзеда Аляксандра Рыгоравіча Прохарам, і Трафім (у адным дакуменце нават Трахім) Прохаравіч Лукашэнка жыў на хутарах у Александрыі яшчэ да пачатку калектывізацыі. Тут жа ў 1924 годзе нарадзілася і Кацярына Трафімаўна — маці будучага кіраўніка дзяржавы.

Вынікі перапісу 1924 сведчаць, што ў сям'і Трахіма Прохаравіча Лукашэнкі было 5 чалавек (у 1926 годзе — ужо шасцёра: два мужчыны і чатыры жанчыны). Яго хутарская гаспадарка была небагатая: 1 конь, карова і 1 свіння.

Не падлягае сумневу (гэта адзначана ў двух розных дакументах за розныя гады — выніках перапісаў 1924 і 1926 гадоў), што Трафім Прохаравіч Лукашэнка быў па нацыянальнасці беларусам. З амаль 100-працэнтнай імавернасцю быў ён карэнным беларускім селянінам з Магілёўскай губерні, дзе першы ўсерасійскі перапіс 1897 зафіксаваў, што больш за 80% мясцовага насельніцтва, акрамя габрэяў і прыезджых, гаварыць на беларускай мове.

Някляеў



## Адзін

Чужы чужым — яны знайшлі
свайго,
Не свой сваім — яны пайшлі
з чужымі.
Не тузайся ні з тымі, ні з другімі.
Як ты адзін — ты больш за аднаго.
У высі птушка,
Рыба ў глыбіні,
Вандроўнік на фантомным
небакраі,
Як ты адзін — ты не змарнуеш дні
На тое, каб спазнаць законы зграі.
Як ты адзін — аднойчы ўночы ты,
Угледзеўшы імгненны
след каметы,
Уцяміш таямніцу пустаты,
З якой Гасподзь саткаў
усе Сусветы.
Як ты адзін — ты боскай тканкі ніць
У вушка голкі зловіш і, быць можа,
Пустое станеш ткаць,
пустое шыць, —
Як ты адзін,
Як Бог у тым паможа.

Святлана Куль



## Падарыце мне крэйду, сябры

Калі хочаце вы падарыць,
Што для шчасця ў народзіны дораць —
Падарыце мне крэйду, сябры,
Крэйду-крэйдачку з Крэйдавых гораў.
Гарадзенскую крэйду з лясоў,
З-пад дзірвану лістоты і голак.
Я пад шэпт таямнічых замоў
Намалюю ахоўнае кола.
Непамерны для кола абсяг,
Ці змагу, ці абвесці паспею?
Ці нядоўгага хопіць жыцця,
Бо пачаць давядзецца з Асвеі,
І на ўсход за Дняпро па мяжы,
І на поўдзень да Чорнага мора
Ад бяды чараваць рубяжы
Падарункамі з Крэйдавых гораў.
Каб праз кола не рушыць вайне,
Дачакацца спакою і ладу,
Хай чароўнае кола замкне
Беларуска з далёкай Канады.

Таццяна Барысік



## Балада аб няспраўджанай настальгіі

Паўсюль халаты белыя,
У шклянках спірт ды кроў,
Ля кабінета хлопчык хвілін пятнаццаць роў.
Чарга на калідоры, што ім да тых пакут!
Іграе песня ў радзіве пра мілы сэрцу кут…
Адзін пажылы дзядзька расчуліўся хоць плач:
І крапнула на боты слязіна ці смаркач.
Бо бацькаўшчыну ўспомніў:
Спеў маладой вясны, язмін у белай квеценi
ды вечар выпускны.
І Любку Бугаёву, і цяплыню раллі,
Як белыя аблокі над рэчкаю плылі…
Вось так пад песню гэтую сядзеў ды ўспамінаў,
Віно «Сасновы водар» патроху налiваў.
Кульнуў адзін стаканчык, яшчэ адзін кульнуў,
На лаўцы размарыла, не згледзеў, як заснуў…
У полі вецер свішча і дождж касы сячэ
Гумовікам падраным ён родну гразь таўчэ,
Праўленне. Сцяг чырвоны. На ганку старшыня.
А маці слёзна просіць адсеяцца каня…
Прачнуўся, схамянуўся, ад страху ажно ўзмок!
Як добра, што не ў вёсцы. Уцёк! Уцёк! Уцёк!
Крычаць з рэгістратуры:
— Набраўся, стары пень!
Аналізаў не возьмем,
Прыходзь у іншы дзень!

Анатоль Івашчанка



## Любоў да галубоў

я кармлю праз акно галубоў
дробна пашаткаваным батонам
я кармлю не таму што любоў
больш няма пакрышыць на каго

у мяне ёсьць дзьве коткі і рыбкі
трое дзетак у рэсьце рэшт жонка
мне стае цеплыні і пяшчоты
каб хацелася зранку ўставаць

хтосьці скажа што чэл я някепскі
што старанна выконваю справу
можа хтосьці нат вершык пахваліць
(я вядома ж паверу яму)

на халеру ж мне лішнія рухі
адчыняць запацелыя шыбы
рэзаць хлеб і крышыць яго птушкам
што загадзяць суседскі карніз?

далібог я ня маю адказу
але перш як пасьнедаць самому
перш як рыб улагодзіць і котак
(а пра жоначку лепш прамаўчу)

дастаю дошку ножык і бохан
рытуальна пагрукваю бляхай
і сустрэўшыся позіркам з птахам
прамаўляю: «здароўкі, чувак!»

Віктар Шніп



## Чытаючы ў кавярні «Нашу Ніву»…

Чытаючы ў кавярні «Нашу Ніву»,
Ты думаеш, што ты ўжо дэмакрат.
І ты ад думкі, як віна, шчаслівы,
І каву п'еш, і душыш вінаград.

А за акном марозная завея,
Як ледзяшы, бялеюць ліхтары.
І кажаш, што ніхто не разумее
Цябе, і асабліва змагары.

Прагрукацеў трамвай, ізноўку ціша,
Нібыта прад сусветнаю зімой.
І поўня — неба зноў прагрызлі мышы —
Халодная, далёка прад табой.

І да сярэдзіны не дачытаўшы,
Кладзеш газету ў торбу, як крадзеш,
І за абслугу дзякуй не сказаўшы,
Зноў у зіму, як у Сібір, ідзеш,

Шкадуючы сябе, як пяць капеек,
Якія ты ў дзяцінстве дзесь згубіў.
І ніткі срэбныя трамвайных рэек
Праз снег іскрацца, каб ты іх любіў,

Што ёсць яны і ты па іх дадому
Вярнуцца можаш і зайсці ў свой свет,
І стрэсці снег з плячэй, нібы салому,
Прынёсшы «Ніву» з пахам цыгарэт…





У кнігарнях з'явіліся сшыткі з дзеячамі беларускай гісторыі. На вокладках — Міндоўг, Барбара Радзівіл, Павел Сапега, Францыск Скарына. Першапачатковы наклад патрыятычных сшыткаў — 5 тысяч. Іх распаўсюдам займаецца «Белкніга» і «Белсаюздрук». Малюнкі для сшыткаў стварыла мастачка Ірына Зелянеўская.




ДЗМІТРЫЙ БРУШЭКО, TUT.BY

**Паўгадзіны доўжыўся пікет памяці зніклых палітыкаў у цэнтры Мінска. Падчас правядзення акцыі міліцыя склала пратакол на лідара АГП Анатоля Лябедзьку.**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**Для здымак удзельнікаў апазіцыйных акцый «ціхары» цяпер выкарыстоўваюць акуляры са схаванай камерай. На сусветных інтэрнэт-аўкцыёнах такія прылады каштуюць ад $7.**



СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ

**Першы пацалунак. Прыродны комплекс «Красны бор».**




**Конкурс «Энергетыка вачыма людзей». Малюнак 10-гадовай Наталлі Хвацік з Азарычаў (Калінкавіцкі раён).**



## Анекдоты і жарты

* * *

Парада ўдзельнікам дэбатаў. Любую спрэчку можна выйграць, выкарыстоўваючы па чарзе тры фразы:

1. І што?
2. Ты сам зразумеў, што сказаў?!
3. Аргументуй!

* * *

Дом прэс-сакратара Пуціна Дзмітрыя Пяскова каштуе $15,6 мільёна, гэта ўдвая больш за капітал Абамы. Пры гэтым расейцы ўпэўненыя, што іх пенсіі скраў Абама, а не Пяскоў.

* * *

На вяселлі школьнага фізрука нявесце давялося кідаць букет да таго часу, пакуль не ўклалася ў нарматывы.

* * *

Аддзел кадраў.

— Вы здагадваецеся, навошта мы вас запрасілі?

— Мне хочуць павысіць заробак?

— Не.

— Таму што я шэсцьсот разоў уводзіў запыт «Як падпаліць офіс»?

— Так.

* * *

Кранаўшчык Кавалёў з вышыні 30 метраў выпусціў бутэльку гарэлкі. Але, на шчасце, яна не разбілася, бо ўнізе яе злавіў задыханы і спалоханы Кавалёў.

* * *

Паводле ацэнак экспертаў, цэны ў крамах ужо пераадолелі ўзровень «ого!» і наблізіліся да «ніфіга сабе!».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Як паказваюць лічбы**, нават у часе рэвалюцыі не было столькі пажараў. Цяпер жа скрозь паляць мужыкі адзін аднаго і самі сябе. Паляць, каб дастаць страхоўку. Паляць па злосці на суседа, зайдросцячы яму, паляць проста для дрэннай штукі.

**«НН». №39. 1910**

**Прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч** з Ваўкавыска 20 верасня пачаў галадоўку, пратэстуючы супраць чарговага наступу падатковых органаў і мясцовых уладаў на ягоны бізнэс. На ягоную жонку, сузаснавальніцу фірмы «Ніка-Транс», і дырэктара фірмы Юрыя Лявонава заведзеная крымінальная справа за ўхіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйных памерах, і апісаная маёмасць.

**«НН». №35. 2005**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.09.2015.
Замова №3609.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

